PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (2027) ГОД XL БЕЛАСТОК 19 САКАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## „А я ўсё яшчэ жыву, пішу...”

**З ПАЭТАМ ВІКТАРАМ ШВЕДАМ НАПЯРЭДАДНІ ЯГО 70-ГОДДЗЯ ГУТАРЫЦЬ АДА ЧАЧУГА**

*Дурманіць нас пахам трава,*
*Калі становіцца сенам.*
*В. Швед*

Здавалася, усё было такое звычайнае: як журналісты „Нівы” пісалі рэпартажы і інфармацыі, амаль таксама рэгулярна Віктар Швед на працягу многіх гадоў па-рабочаму прыносіў ці прысылаў у рэдакцыю свае вершы. З гэтых вершаў пасля складаліся зборнікі, і ўжо не было патрэбы іх чытаць, бо і так амаль кожны з вершаў даводзілася мне трымаць у руках.

І можа толькі цяпер, яшчэ раз пераглядаючы перад гэтай гутаркай — ужо быццам зводдалі — Віктаравы вершы, я па-сапраўднаму адчула іх характво. Яно — у свойскім каларыце, у непаўторным ладзе і кансеквенцы, у шчырасці і прастаце выказвання думак і мараў паэта.

23 сакавіка 1995 года Віктару Шведу спаўняецца 70 гадоў. Нягледзячы на сталыя гады, не пагасла яго творчае натхненне. Яго імя добра вядома амаль у кожнай беларускай хаце на Беласточчыне. Мала ў якой вёсцы не пабываў ён на аўтарскай сустрэчы. Людзі чытаюць, бо яго паэзія ім блізкая і зразумелая. На словы яго вершаў пішуць музыку. Спяваюць гэтыя песні старыя і моладзь, бо ў іх — само жыццё.

Творчасць Віктара Шведа стала сімвалам непахіснага змагання за беларускасць.

Прыемна гутарыць з гэтым добрым і сціплым чалавекам у яго хаце. Толькі на момант заглядае ў пакой яго жонка Валя, каб падкінуць нам нешта да кавы, або забяжыць ад часу да часу іх няўрымслівая шчабятуха Наталька: то хваліцца сваёй бібліятэчкай, цацкамі, то просіць, каб я чытала ёй казкі па-беларуску, або перакладала з польскай мовы на беларускую.

* * *

*— Ці лёгка, Віктар, быць бацькам чатырохгадовай Натанькі ў семдзесят гадоў?*

— Я думаў, што будзе лягчэй!

*— Гэта ваш скарб! Рэдка сустрэнеш такое інтэлігентнае дзіця!*

— Часамі, калі я вазіў яе яшчэ ў калясцы, чуў за плячыма галасы: „Бацька ці дзед?” — і мне хацелася крыкнуць на ўвесь свет, што бацька.

*— Не перайм айся! Калі я хаджу са сваёй унучкай, таксама нераз чую: „Бабка ці маці?” — ды толькі я зусім не хачу крычаць на ўвесь свет, што бабка.*

— Наталька пахвалілася ў прадшколлі, што яна — беларуска. Здзіўленая выхавацелька запытала ў Валі, ці гэта праўда. Так, адказала маці, яна вам сказала праўду, а мой муж — беларускі паэт. Выхавацелька на ўсякі выпадак пачала апраўдвацца. Я ж ёй сказала тады: якая ты беларуска, калі гаворыш па-польску, а па-беларуску не ўмееш, а яна мне, бач, кажа: але навучуся!

Валя папрасіла тады, каб больш выхавацелька не тлумачыла Наце, што яна — не беларуска. Ну, і сёння малая носіць у прадшколле мае вершы, якія выхавацелькі чытаюць дзецям. Праўда, у перакладзе на польскую мову.

*— У галіне дзіцячай паэзіі ёсць табе чым пахваліцца, а некаторыя літаратурныя крытыкі цябе нават зашуфлядкавалі як дзіцячага пісьменніка.*

— Гэта якраз мяне не цешыць. Лічу, што я дастаткова многа напісаў і для дарослых, хаця... вершаў для дзяцей у мяне каля дзвюх тысяч. Звыш шасцідзесяці я пераклаў на польскую мову. Хачу выдаць зборнік на польскай мове, каб і да польскіх дзяцей дайшла мая паэзія.

*— Свой першы беларускі верш ты напісаў, здаецца, у 1940 годзе?!*

— Так. „Не думай ніколі, што ўмееш даволі”. Ён пазней быў уключаны ў зборнік „Дзяцінства прыстань” (1975 год выдання).

*— Але, дагэтуль ужо пісаў польскія вершы?*

— Польскія вершы я пісаў ужо ў пятым класе падставовай школы ў Орлі (з маёй вёскі Мора трэба было ісці шэсць кіламетраў). Настаўніца польскай мовы пані Цежахова сказала: „Przyznaj się, skąd żeś przepisał te wiersze?!” У мяне ў вачах закруціліся слёзы. Тады яна паклікала мяне дахаты, пачаставала абедам. Да сёння памятаю смак памідораў, якія я тады еў у яе, хаця была зімовая пара.

*— Калі ты пазнаёміўся з беларускай літаратурнай мовай?*

— Калі чытаў „Маланку” — сатырычную газету, якая выдавалася ў Заходняй Беларусі. Яна хадзіла і па нашай вёсцы — дзесьці бацька яе раздабываў. Потым, калі ад трыццаць дзевятага па сорак першы вучыўся ў Орлі ў беларускай дзесяцігодцы, дзе ўсе прадметы былі па-беларуску, дык вывучыў яе настолькі, што пачаў пісаць вершы і быў скіраваны на алімпіяду ў Бельск.

Яшчэ да прыходу саветаў я прабаваў паступіць у польскую гімназію ў Бельску. Мяне туды не прынялі „z braku miejsc”, хаця я здаў уступны экзамен. Дарма бацька абяцаў: „Апошнюю кароўку прадам, а будзеш вучыцца!” Было крыўдна. Дачку настаўніка з Орлі, якая не здала ўступнага экзамена, узялі з ахвотай: у яе руках быў козыр, якога не меў я, — яна была полькай, а не беларускай і яе бацька ў 20-ым годзе быў на вайне з бальшавікамі!

Я ўжо не меў надзеі на далейшую вучобу, калі неспадзявана ад верасня трыццаць дзевятага пачала працаваць беларуская дзесяцігодка.

*— А ўсё ж такі як паэт ты вырас з „Нівы”...*

— Калі я выехаў у Варшаву і вучыўся ўвечары, дык мусіў працаваць удзень, каб было за што жыць. Тады ў мяне не было часу пісаць вершы. А да таго ж дайшлі сямейныя абавязкі. Я маўчаў аж да пяцьдзесят сёмага года. Але калі я бачыў вершы ў „Ніве”, якая паявілася ў пяцьдзесят шостым, дык думаў, што мо і мне варта нешта напісаць. Выслаў я ў рэдакцыю верш „Я — беларус”, а Валкавыцкі адпісаў: „Будзем друкаваць. Просім дасылаць новыя вершы.” І ад таго часу пачалося. Калі б не „Ніва”, дык, пэўна, нічога б і не было з мяне. Па-польску пісаць не хацелася, а па-беларуску да „Нівы” і не было дзе друкаваць.

А ў пяцьдзесят сёмым я пачаў працаваць у „Ніве”. Не паставілі б мяне сакратаром у Таварыстве, дык там бы, пэўна, і застаўся... Пасля вярнуўся ў Варшаву, дзе кіраваў Варшаўскім аддзелам БГКТ. Адначасова працаваў у выдавецтве „Książka i Wiedza” — аж да

*Працяг на стар. 5*

*Яўген Мірановіч*

## ДЗВЕ БЕЛАРУСІ

Падчас І сусветнай вайны амаль маланкава фармавалася беларуская дзяржаўная і нацыянальная думка. У красавіку і ліпені 1917 г. адбыліся два агульнанацыянальныя з'езды беларускіх партый і арганізацый, якія абмеркавалі палітычныя перспектывы нацыі. Калі ў красавіку дамінавала яшчэ думка пра аўтаномію Беларусі ў межах Расіі, у ліпені большасць думала ўжо катэгорыямі ўласнай дзяржавы. Бальшавіцкі пераварот стрымаў гэты палітычны працэс. На тэрыторыі Беларусі стаяла амаль мільённая армія, падпарадкаваная Савету народных камісараў. У такой сітуацыі беларускія палітыкі рашыліся склікаць у Менску 14 снежня 1917 г. Усебеларускі кангрэс, які нават паводле бальшавіцкай „Дэкларацыі правоў народаў Расіі” мог акрэсліць лёс Бацькаўшчыны. 1 872 дэлегатаў з усіх куткоў беларускай зямлі не маглі аднак нічога зрабіць і абмеркаваць. Гэты Кангрэс бальшавікі проста разагналі. Дэлегаты аднак паспелі стварыць Раду Кангрэсу і Народны Сакратарыят, які меў выконваць функцыі ўрада. 25 лютага 1918 г. Менск быў акупіраваны немцамі, якія аднак не перашкаджалі Сакратарыяту ствараць структуры адміністрацыі, асветы і гаспадаркі. 25 сакавіка Рада Кангрэсу аб'явіла „Дэкрэт аб Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі”.

У неверагодна складанай геапалітычнай сітуацыі, без саюзнікаў і ўласнай арміі, беларускія дзеячы мелі адвагу пачаць пабудову свае дзяржаўнасці. Тады аднак не пашанцавала. Пасля кароткай каланіяльнай вайны расейцы і палякі Рыжскім трактатам у 1921 г. падзялілі паміж сябе беларускую дзяржаву. Беларускі ўрад і стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі ў большасці апынуліся на эміграцыі. Спробы барацьбы з бальшавікамі і палякамі ў дваццатых гадах закончыліся мілітарным паражэннем. Але ў нацыянальнай памяці асталася легенда Слуцкай брыгады, ці партызанаў Скамароха.

Пасляваенная Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка пры канцы свайго існавання абмежавала беларускасць да геаграфічнага панацця. Большасць грамадзян гэтай краіны нават не ведала, што 25 сакавіка гэта нейкая асаблівая дата ў гісторыі народа. Пачатак Гарбачоўскай эпохі адкрыў сумную праўду. На тэрыторыі БССР была толькі жменька людзей, якая заявіла адкрыта, што хоча жыць у свабоднай дэмакратычнай Беларусі. Курапаты і Чарнобыль адкрылі вочы частцы савецкай інтэлігенцыі. Народ, якому раней адабралі мову, культуру і гістарычную свядомасць, на ўсе палітычныя змены глядзеў абыякава, праклінаў г.зв. „дэмакратаў”, што разам з імі з'явіліся талоны на ежу, інфляцыя, злачыннасць. Вакол беларускіх межаў народы адкрытым голасам крычалі: „свабода” і „незалежнасць”. У Менску студэнт без сораму заяўляў: „Я ненавіджу гэтую прымітыўную, мужыцкую, беларускую мову”. Што мусіла здарыцца, каб малады чалавек з такой пагардай ставіўся да мовы сваіх продкаў, да свае культур-

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Dramat Bałkanów polega nie tylko na agresywnej polityce serbskiej. Polega również na tym, że państwo wieloetniczne zostało wyparte przez idee etnicznych czystek. Ta idea zwyciężyła, niestety, nie tylko w Serbii. Dziś Bałkany są etniczne, a nie wielokulturowe.*

*(Gazeta — Magazyn, nr 8)*

* * *

*Uwolnienie się Białorusi od rosyjskich wpływów kulturowych leży w naszym interesie. Dlatego powinniśmy wspierać tamtejszy ruch narodowy, pod warunkiem, że nie będzie on przejawiał tendencji do ograniczania polskiego odrodzenia narodowego. Takie niebezpieczeństwo istnieje, głównie na dążeniu białoruskich nacjonalistów do białorutenizacji Kościoła katolickiego i jego wyznawców, których uważają za „spolonizowanych Białorusinów". W sumie jednak stosunki pomiędzy ruchem polskim a białoruską opozycją narodową układają się nie najgorzej. Zajadle antypolską orientację reprezentują na Białorusi siły promoskiewskie i neokomunistyczne.*

*Jeśli jednak białoruski nurt narodowy wziąłby górę, to może należałoby przychylnie spojrzeć na białoruskie aspiracje do Wilna, które Białorusini uważają za swoją historyczną stolicę?*

*(Myśl Polska, nr 8)*

Больш забаўнае было б стварэнне „Wolnego Miasta Wilna" пад аховай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

* * *

*Według źródeł radzieckich w polskich obozach w latach 1919—1920 poniosło śmierc 60 tys. jeńców Armii Czerwonej, natomiast według Centralnego Archiwum Wojskowego i archiwów wojewódzkich w latach 1919—1920 zmarło tam 18 tys. żołnierzy.*

*(Wprost, nr 9)*

* * *

*Пасеяць, магчыма, пасеем. А ці ўбяром?*

*(Звязда, н-р 33)*

Адвечная дылема савецкай сельскай гаспадаркі.

* * *

*Вытворчасць ялавічыны на Беларусі з 1990 года знізілася на 36 працэнтаў, свініны напалову, збожжа — на 19 працэнтаў, бульбы — на 29, цукровых буракоў — на 31, ільновалакна — на 14 працэнтаў.*

*(Народная газета, н-р 33)*

А ўсяму вінаватая незалежнасць. Навошта і каму яна патрэбная?

* * *

*Po przeczytaniu dodatku do „Wiadomości Kulturalnych" odniosłem wrażenie, że Białostocczyzna to region kulturalny naszego kraju, na którym działa mniejszość polska, a główne zjawiska kulturalne obracają się wokół Białorusinów.*

*(Gazeta w Białymstoku, nr 49)*

Coś w tym jest!

* * *

*Камунізму ніколі не будзе.*

*(Культура, н-р 7)*

Адкуль такі аптымізм, спадары?

* * *

*W lasach wokół Czarnej Białostockiej pełno jest fabryczek produkujących bimber. Niedostępne masywy bagienno-leśne Puszczy Knyszyńskiej to istny raj dla bimbrowników. Koniunkturę nakręca bezrobocie. Z bimbrownictwa żyją całe rodziny i ich znajomi. Jedni zajmują się produkcją samogonu, inni go rozprowadzają. Bimber z Czarnej trafia na rynki wielu miejscowości, w tym także Białegostoku. Niektóre rodziny trudnią się wyrobem spirytusu z dziada pradziada. Każda z nich ma swą własną recepturę, którą skrzętnie chroni przed konkurecją. A wyprodukować dobry bimber nie jest wcale łatwo.*

*(Gazeta Współczesna, nr 40)*

У Гарадку самагоншчыкі карыстаюцца нават вялікай пашанай у народзе. Ну бо як тут не шанаваць добрага прадпрымальніка, які робіць тавар лепшы, чым той, што прадаецца ў „Далікатэсах", і на дадатак чатыры разы таннейшы. Даць людзям трошку свабоды, а ўсе „Polmosy" праз месяц халера возьме.

* * *

*„Bury" był szefem Pogotowia Akcji Specjalnej Narodowego Zjednoczenia Wojskowego. Powołano je w celu likwidacji agentów UB, jego funcjonariuszy i niebezpiecznych działaczy PPR. Partyzanci uprawnieni do wykonywania wyroków rozstrzeliwali oskarżonych. Nie mordowali natomiast ludności cywilnej. Trudno obecnie ustalić co było przyczyną tragicznych zajść w Zaleszanach, w ogóle co tam się naprawdę działo. Wiadomo, że rozstrzelano 2 mężczyzn za współpracę z NKWD. A później?.. Świadkowie zeznający później na procesie „Burego" podawali sprzeczne informacje. Jedni mówili, że pilnowano palącego się domu sołtysa — inni, że nie. Oddział bardzo szybko wycofał się i ludzie się uratowali.*

*(Tygodnik Podlaski z 15.02.1995 r.; Bielsk Podlaski)*

Так паводле Niezależnego Samorządnego Związku Zawodowego „Solidarność" Komisji Zakładowej Pracowników Oświaty i Wychowania w Bielsku Podlaskim выглядае пацыфікацыя вёскі Залешаны. Рыцары „Бурага" ўвайшлі туды з дабрачыннай місіяй, — заяўляюць сёння іх духовыя дзеці. Нічога асаблівага там не сталася. А калі згарэлі ў падпаленым доме нейкія людзі, у тым ліку і дзеці, гэта ў ніякім выпадку не датычыць „Бурага". І чым гэта розніцца ад бальшавіцкай ці гебельсаўскай дэмагогіі?

* * *

*На пасяджэнні калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што ён ва ўсім будзе абапірацца на Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэт дзяржаўнай бяспекі і армію.*

*(Свабода, н-р 6)*

Хунта Лукашэнкі вяртаецца да традыцыйных метадаў кіравання дзяржавай. А ўзоры мае нічога сабе.

* * *

*„Biała siła", „Czarny do domu", „Spierdalaj", „Skini górą" — to okrzyki wydawane przez piątkę człekokształtnych mieszkańców Stargardu Szczecińskiego, którzy zaatakowali czarnoskórego koszykarza miejscowej drużyny, Martina Lewisa Egglesstonna. Nikt ze świadków nie przyszedł bitemu z pomocą, ani nie zawiadomił policji.*

*(Polityka, nr 8)*

А ў Польшчы традыцыйна талерантнасць нават пашыраецца.

# З мінулага тыдня

**Рада Міністраў** стварыла ўрадавую камісію па справах грамадскай бяспекі і барацьбы са злачыннасцю, якую ўзначаліў прэм'ер-міністр **Юзэф Алексы**. Новая структура на працягу двух тыдняў распрацуе пакет неадкладных заканадаўчых і арганізацыйных дзеянняў дзеля паправы бяспечнасці грамадзян.

**Новы міністр замежных спраў Уладыслаў Барташэўскі** заявіў, што Польшча намерваецца актыўна ўдзельнічаць у святкаваннях 50 гадавіны заканчэння II сусветнай вайны і адзначыў, што непрысутнасць ці маргіналізацыя ролі Польшчы ў святкаваннях была б „непрымальнай".

**Фонд „Polcul"** узнагародзіў 14 асоб за ўдзел у культурным руху і будове грамадзянскай супольнасці, а таксама за супрацоўніцтва і дружбу з суседзямі Польшчы. За дзейнасць у карысць польска-беларускай дружбы ўзнагароды атрымалі: **Тадэвуш Гавін, Тадэвуш Малевіч, Анна Садоўская** і **Ізабэля Тыркін**. Вышэйназваны фонд падтрымоўвае незалежную польскую культуру і быў заснаваны ў 1980 годзе чатырма палякамі з Аўстраліі.

**На Венгрыі** ўпершыню ў гісторыі ўзнік **Краёвы самаўрад польскай меншасці**. У гэтай краіне пражывае 10—15 тысяч палякаў.

**Гарадская рада ў Беластоку** ўхваліла сёлетні бюджэт. У ходзе сесіі радныя вырашылі пабольшыць на 5 тысяч зл. (50 мільёнаў ст. зл.) датацыю на дзейнасць арганізацый нацыянальных меншасцей, якая ў выніку складае суму 20.000 зл.

На сходзе **Беластоцкага аддзела Саюза польскіх літаратараў** адбыліся перавыбары ўлад. **Старшынёю** аддзела стаў **Ян Леанчук**, а **скарбнікам Ян Чыквін — старшыня літаб'яднання „Белавежа"**.

**У рамках III Міжнароднага Тыдня тэатра** Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі прапануе жыхарам Беластока спектаклі на розных мовах. Па-беларуску будзе прадстаўлена „Сялянка" С. Манюшкі ў выкананні акцёраў Тэатра імя Янкі Купалы з Менска *(праграму Міжнароднага тыдня тэатра друкуем на 3 староны)*.

**Фірма „Пронар" з Нарвы** стала адным з пераможцаў конкурсу „Агра--Ліга'94". Займаецца яна перапрацоўкай сельскагаспадарчых прадуктаў і зборкай трактароў. „Пронар" стаў краёвым майстрам у катэгорыі сельскагаспадарчых фірм. Урачыстае завяршэнне конкурсу адбылося ў Варшаве ў прысутнасці прэм'ера **Юзэфа Алексы** і віцэ-прэм'ера, міністра сельскай гаспадаркі **Рамана Ягелінскага**.

**Бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк** намерваецца супольна з войтамі навакольных гмін прыняць меры па недапушчэнню да ліквідацыі чыгуначнай лініі Бельск — Беласток, а ў выніку — закрыцця камунікацыйнага шляху з гэтага горада ў Беласток, Седльцы і Люблін. Ліквідацыя чыгуначнай камунікацыі можа стаць прычынай эканамічнай дэградацыі горада.

**Экалагічная рада** пры Прэзідэнце РП прысвоіла **гміне Супрасль** вылучэнне ў агульнакраёвым спаборніцтве на найбольш экалагічную гміну ў Польшчы. Апрача кубка і дыплома Супрасль можа лічыць на датацыі з Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і на пазыкі з такога ж банка.

**Жыхары Крывой**, што ў гміне Орля, у рэферэндуме выказаліся за ўключэннем іх вёскі ў гміну Бельск-Падляшскі. Для ажыццяўлення выніку рэферэндума патрэбна яшчэ згода абодвух гмін і дабро Самаўрадавага сейміка Беластоцкага ваяводства.

**У Галадах** група з дзесяці маладых мужчын пабіла трох паліцыянтаў. Прыехалі яны з Бельска ў вёску, каб спыніць п'янага шафёра, які ехаў на машыне „Фіат". Калі паліцыянты правяралі дакументы затрыманага, група мужчын запатрабавала адпусціць шафёра і накінулася на паліцыянтаў. Для ўціхамірання п'яных маладзёнаў трэба было выклікаць дапамогу з Бельска. Паліцыянты атрымалі пашкоджанні твару, галавы і рук.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Як жывуць беларусы Сакольшчыны.
- Паслядоўнасці Рыжскага трактата.
- Людзі, шануйце лес! — заклікае Мікалай Панфілюк.
- Віншаванні, парады і пароды.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Парушэнне дагавору

Дзяржаўны сакратар Савета Бяспекі Беларусі Віктар Шэйман перадаў сродкам масавай інфармацыі тэкст, у якім выказана афіцыйная пазіцыя кіраўніцтва краіны ў адносінах да рашэння прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб спыненні ліквідацыі лішкаў ваеннай тэхнікі і ўзбраення ды парушэнні такім чынам дагавору аб звычайных узброеных сілах у Еўропе. Рашэнне тлумачыцца складанымі эканамічнымі ўмовамі краіны і нястачай фінансавых сродкаў на скарачэнне баявой тэхнікі. Акрамя таго патрэбнае значнае ўкладанне на правядзенне прыродаахоўчых мерапрыемстваў, кошт якіх перавысіць рэальны кошт расходу ліквідацыі празмернага ўзбраення. У сувязі з гэтым Беларусь прапанавала стварыць фонд за кошт развітых дзяржаў для аказання дапамогі па скарачэнню звычайных узбраенняў, аднак гэтая ініцыятыва не была падтрымана заходнімі краінамі. Акрамя ЗША, якія выдзелілі 5 млн. дол., ніхто не адгукнуўся на просьбу Беларусі.

### Пазіцыя прэм'ера

Прыпыненне Беларуссю выканання дагавору аб звычайных узбраеннях у Еўропе мае часовы характар, — заявіў прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Паводле яго, зэканомленыя сродкі пойдуць на правядзенне веснавой пасяўной кампаніі. Прэм'ер-міністр запэўніў, што пасля заканчэння ацяпляльнага сезона, які патрабуе вялізных валютных затратаў, і пасяўной кампаніі кіраўніцтва рэспублікі вернецца да выканання сваіх абавязацельстваў па міжнародным дагаворы.

### Чые гэта дапламаты?

Трывожныя даныя паведаміў з трыбуны Вярхоўнага Савета дэпутат Уладзімір Грыбанаў. Ён сказаў, што шэраг адказных асоб з вышэйшых эшалонаў улады не маюць беларускага грамадзянства. У якасці прыкладу дэпутат прывёў адказ міністра замежных спраў Уладзіміра Сянько на запыт парламенцкай камісіі. У ім паведамляецца, што тры супрацоўнікі гэтага міністэрства не з'яўляюцца грамадзянамі РБ. Не маюць беларускага грамадзянства таксама саветнік пасольства ў Нямеччыне і аташэ пасольства ў Кітаі. Такім чынам асобы, якія праводзяць палітыку дзяржавы за мяжою, не нясуць адказнасці перад Канстытуцыяй і законамі Беларусі.

### Святкаванне ўгодкаў БНР

БНФ стварыла аргкамітэт па святкаванні 77 гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты дзень — 25 сакавіка — плануецца правесці ў Менску святочнае шэсце грамадскасці, мітынг, рыхтуецца вялікая канцэртная праграма. Да гэтай даты будуць прымеркаваны спецыяльныя мастацкія выставы. Аргкамітэт накіраваў да ўлад горада просьбу дазволіць правядзенне святочных мерапрыемстваў.

### Кампрамат на дэпутатаў

Паводле даных БНФ, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка рыхтуе даклад, які змяшчае кампраметуючыя матэрыялы на 80% членаў Вярхоўнага Савета. Пра гэта заявіў, выступаючы ў парламенце, лідэр Свабодных прафсаюзаў Беларусі Сяргей Антончык. Ён выказаў думку, што абнародаванне даклада можа стаць прычынай для роспуску парламента.

### Пачынаецца выбарчая кампанія

Пачалася ўжо рэгістрацыя ініцыятыўных груп па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета новага склікання. Такім чынам з першых дзён вясны афіцыйна пачалася выбарчая кампанія. Пра ўдзел у выбарах заявілі практычна ўсе палітычныя сілы рэспублікі. У сувязі з тым, што цяперашнія дэпутаты ВС, якія пажадалі ўступіць у барацьбу за новы мандат, могуць выкарыстоўваць парламенцкія мікрафоны для самарэкламы, беларускім сродкам масавай інфармацыі рэкамендавана ўстрымацца ад акцэнтавання ўвагі на паасобных дэпутатах і іх пазіцыях.

### Ганцавіцкі пратэст

Пасля візіту Барыса Ельцына ў Беларусь міністр абароны Расеі Павел Грачоў заявіў, што далёкая авіяцыя, якая ў свой час знялася з аэрадрома ў Баранавічах, вяртаецца на былое месца. І калі жыхары Баранавіч успрынялі гэта абыякава, то ў Ганцавічах наспявае скандал. Прычынай нездавальнення стала радыёлакацыйная станцыя, што будуецца недалёка ад горада. Жыхары раённага цэнтра лічаць, што яна будзе першай мішэнню для ядзернага ўдару, а таксама пагражае экалагічнай раўнавазе. Пісьмо-пратэст супраць будаўніцтва аб'екта, на які ўжо затрачана вялізныя сродкі, жыхары Ганцавіч накіравалі прэзідэнту Беларусі.

### Жонку есці не будзеш

Пенсіянер П. з вёскі Палачаны вырашыў назаўсёды развітацца са сваёй маладой жонкай, бежанкай з Каўказа, і меў намер прадаць яе аднавяскоўцу за мех бульбы. Але ж той катэгарычна адмовіўся ад такой здзелкі, палічыўшы яе нявыгаднай. Ну што ж, якія часы, такія і норавы.

# Сход польскіх беларусазнаўцаў

4 сакавіка 1994 г. у Варшаве прайшоў справаздачна-выбарчы сход Польскага беларусазнаўчага таварыства, якое з'яўляецца членам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Ганаровым госцем сходу быў прэзідэнт МАБ праф. Адам Мальдзіс з Менска. „Нашае грамадства хворае, — сказаў ён у прамове, з якой і пачаўся сход, — прычым назіраецца рэцыдыў хваробы, а гэта больш небяспечнае, чымсьці першы прыступ. Існуе моцная тэндэнцыя спыніць і павярнуць назад працэсы станаўлення незалежнасці Беларусі і адраджэння беларускай мовы. Вядуцца намаганні зрабіць другой афіцыйнай мовай расейскую, а па сутнасці, яна ж з'яўляецца дзяржаўнай, на ёй гаворыць урад, большасць парламента, яна дамінуе ў тэлебачанні, кнігарні завалены ўсякай расейскай *парнухай і чарнухай*. А прэзідэнт Лукашэнка заяўляе ў Незалежнай маскоўскай тэлевізіі, што, маўляў, у рэферэндуме падтрымае яго 80% *белорусов и русский язык станет официальным*. Ужо друкуюцца збольшанымі тыражамі буквары па рускай мове, якая будзе, побач з беларускай, выкладацца ў першым класе. Да таго наша грамадства становіцца нанава ваенізаваным, зацягваецца вывад расейскіх войск, падымаюцца галасы, што дрэнна мы зрабілі, выводзячы з сярэдніх школ вайсковыя заняткі. І найгоршае тое, што няма ў нас ніякіх ідэалаў — сацыялістычныя памерлі і на іх месца не з'явіліся ніякія іншыя. Гэта ўсё ад таго, што незалежнасць нам была падараваная, мы за яе не змагаліся".

У далейшым прафесар Мальдзіс гаварыў пра кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, правядзенне якога плануецца на 16—18 мая ў Менску. Тэма кангрэсу: „Беларусь між Усходам і Захадам". „Беларусь спрадвеку знаходзіцца на скрыжаванні культур, — сказаў прафесар, — але нашае нацыянальнае дрэва павінна стаяць проста, не перахіляцца занадта ні на ўсход (як цяпер), ні на захад (як хацелі б некаторыя). У час кангрэсу хочам арганізаваць шэраг круглых сталоў па культурным абмене з усімі нашымі суседзямі. Другі важны аспект — рэлігійны. Шматканфесійная Беларусь, гэта як разнаколерны кветнік і мы хочам у час кангрэсу абмяркоўваць гэтае пытанне".

На заканчэнне свайго выступлення Адам Мальдзіс пазнаёміў прысутных з планамі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў на бліжэйшы год і выказаў спадзяванне, што польскія беларусісты прымуць актыўны ўдзел у іх здзяйсненні. Паінфармаваў ён таксама, што МАБ вылучыла кандыдатуру Васіля Быкава на літаратурную Нобелеўскую прэмію.

Затым справаздачу з дзейнасці Польскага беларусазнаўчага таварыства даў яго старшыня праф. Аляксандр Баршчэўскі — загадчык Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Таварыства завязалася ў жніўні 1991 года як водгук менскага кангрэсу ў красавіку таго ж года, на якім узнікла Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. У снежні 1991 года ПБТ, супольна з Кафедрай беларускай філалогіі, арганізавала канферэнцыю, прысвечаную сотай гадавіне з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У маі 1993 г. у сядзібе ГП БГКТ у Беластоку прайшоў першы выпуск канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці", у якім удзельнічалі таксама палякі з Гродзеншчыны. Другі выпуск прайшоў у маі 1994 года ў Гродне. Польскае беларусазнаўчае таварыства дапамагала Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта рыхтаваць алімпіяду па беларускай мове для сярэдніх школ. Члены таварыства паспрыялі росту зацікаўлення беларускай мовай сярод палякаў, стыхійна развіваецца беларускія філалогія ў Любліне і Беластоку. „Будучаму кіраўніцтву таварыства жадаю, каб зрабіла больш і лепш, чымсьці мы", — закончыў прафесар Баршчэўскі.

У дыскусіі д-р Юры Туронак звярнуў увагу, што дзейнасць Польскага беларусазнаўчага таварыства пайшла ў адным напрамку — філалагічным і літаратуразнаўчым. Трэба ў будучыні больш увагі прысвяціць такім дзялянкам, як гісторыя і сацыялогія. Прафесар Міхал Саевіч з Любліна прадставіў падрабязную справаздачу з дзейнасці тамтэйшага аддзела таварыства, які развіваецца бадай найхутчэй ва ўсёй Польшчы. Палеміку літаратара і перакладчыка Чэслава Сэнюха выклікала выступленне прафесара Васіля Белаказовіча. Прафесар Белаказовіч, гаворачы аб патрэбе шырэйшых даследаў, хаця б традыцыі Рэчы Паспалітай ці ўзаемных культурных уплываў між суседзямі, сказаў, што не трагедыя, калі другой мовай беларусаў з'яўляецца руская. Прапанаваў ён даследаваць станоўчыя бакі беларуска-расейскага супрацоўніцтва. Чэслаў Сэнюх зарэагаваў на гэтыя словы востра: „Тое, што пан прафесар гаворыць, гэта БССР, якое на шчасце ўжо няма!"

Адкліканне старых і выбар новых уладаў пайшлі гладка. Старшынёю Польскага беларусазнаўчага таварыства зноў быў абраны **праф. Аляксандр Баршчэўскі**. Затым дэлегаты выбралі Галоўную раду, якая між сабой падзялілася функцыямі наступным чынам: **праф. Альберт Барташэвіч** і **праф. Міхал Саевіч** (віцэ-старшыні), **д-р Ядвіга Глушкоўская** (сакратар), **д-р Юры Туронак** (скарбнік), **праф. Ян Чыквін** і **дац. Яўген Іванец** (сябры). Рэвізійную камісію ўзначаліў **праф. Міхал Кандрацюк**, а яе сябрамі сталі **праф. Ларыса Пісарэк** і **праф. Валянцін Пілат**.

Польскае беларусазнаўчае таварыства падтрымала ідэю вылучыць Васіля Быкава як кандыдата на Нобелеўскую прэмію.

**Мікола Ваўранюк**

## PROGRAM III MIĘDZYNARODOWEGO TYGODNIA TEATRU

20.03. — St. Petersburg: Teatr im. Komisarzewskiej: Janusz Głowacki — "Antygona w Nowym Jorku". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku rosyjskim

21.03. — Poniewież: Teatr Dramatyczny: Stanisław Witkacy — "W małym dworku". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku litewskim

22.03. — Bańska Bystrzyca: Divadlo na Razcesti: D. Tatarka — "Dojimate ma Velmi". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku słowackim

22.03. — USA Amy Hart — "Mother Maroon" (Matka Maroon). Scena Mała g. 16 i 20, spektakl w języku angielskim

23.03. — Sevilla: Northern Black Light Theatre na podstawie legend Indian północnoamerykańskich — "Totem". Scena Duża g. 12, 14, 18.15, spektakl taneczny (pantomima)

23.03. — USA Amy Hart — "Voices" (Głosy). Scena Mała g. 16 i 19.30, spektakl w języku angielskim

**24.03. — Mińsk: Teatr im. J. Kupały Stanisław Moniuszko — "Idylla". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku białoruskim**

24.03. — USA Amy Hart — "Mother Maroon". Scena Mała g. 12 i 16

25.03. — Kowno: Teatr Kameralny Ireneusz Iredyński — "Seans". Scena Mała g. 15 i 18.15, spektakl w języku litewskim

26.03. — Wilno: Teatr na Pohulance wg. "Wielopole, Wielopole" Tadeusza Kantora — "Za opłotkami świata". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku rosyjskim

27.03. — Wilno: Teatr na Pohulance Witold Gombrowicz — "Ślub". Scena Duża g. 18.15, spektakl w języku rosyjskim

Ceny biletów: normalny: 5 zł., ulgowy: 4 zł.

Ceny karnetów: normalny: 40 zł., ulgowy: 30 zł.

# ДОБРА ЖЫЦЬ У БЕЛЬСКУ...

... дзе на кожным кроку маеш доказы, што ты сярод сваіх. Ці то перад праваслаўнымі Калядамі, калі спяшаеш з ёлкай дахаты і па дарозе сустракаеш такіх жа забеганых прахожых. Ці то падчас самых святаў, калі ўсё дакладна зачынена, а людзі нетаропка прагульваюцца па тратуарах або ў парку, і ветліва вітаюць адзін аднаго. Ці то проста чуеш, як за сцяной муж жонку мацюкае па-свойму, да таго так заядла, што нават да дзіцяці, якое, відаць, заpuталася пад нагамі, гыркнуў не па-польску. У суботу 4 сакавіка былі якраз праваслаўныя запусты. У каталікаў быў ужо пост, дык вядома, што зноў такі гулялі свае. Па ўсіх мікрараёнах разносіліся песні, якія, праўда, маглі ўвесці ў зман нетутэйшага, але не нас. Бо, што з таго, што гучала славутая „Szła dzieweczka do laseczka" ці не менш вядомая „Góralu, czy ci nie żal?" А між імі яшчэ „Hej, sokoły!" і наш беластоцкі хіт „Pokochałam pięknego Białorusa". Вядома ж было, хто гуляе. А так пад поўнач, дык спевакі зацягнулі ўжо зусім не тоечыся „Цячэ вада ў ярок" і „Распрагайце хлопцы коні". А між гэтымі песнямі чуваць было ўскрыкі „горка! горка!" Кампаніі гулялі бы на вяселлі якім. Вядома ж, нідзе так не пагуляеш, як між сваімі.

**ак**

## ВЯРНУЛІ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Справа беларускага тэлебачання ў Беластоку, якая даволі рэгулярна вяртаецца на старонкі „Нівы", выклікае за кожным разам вялікі водгук сярод нашых чытачоў. Пасля артыкула Аляксандра Максімюка „Не любяць беларускага TV" („Ніва", н-р 8) амаль кожны дзень хтосьці званіў, ці непасрэдна ў рэдакцыі расказваў пра свае безвыніковыя змаганні з адміністрацыяй жыллёвых кааператываў за вяртанне магчымасці аглядаць мінскае тэлебачанне.

Мы часта, ідучы следам нашых чытачоў, звяртаемся да бюракратаў з пытаннем: чаму беларускім арэндаплацельшчыкам не дазваляюць яны глядзець беларускія праграмы. Чуем у адказ нейкія мутныя тэорыі, з якіх вынікае, што ў Беластоку лягчэй прыстасаваць антэну для прыёму нямецкіх ці нават партугальскіх праграм, чым беларускіх. Проста высакаякасная еўрапейская тэхніка не дазваляе трансляваць электрамагнітныя хвалі з усходняга накірунку. Тут нават тэхніка мае ідэалагічныя патрабаванні.

На вуліцы Цёплай у Беластоку жыхары будынка 21 Ц у выніку аслабленай чуйнасці кааператыўнай адміністрацыі маглі кантактавацца з роднымі словам праз пасрэдніцтва тэлевізара аж да восені мінулага года. Толькі калі кватарант з суседняга будынка звярнуўся да спадароў ураднікаў з прашэннем, каб вярнулі і яму мінскае тэлебачанне, у адказ пачуў традыцыйнае тлумачэнне, што няма такіх тэхнічных магчымасцей. Спаслаўся тады ён на прэцэдэнт з вуліцы Цёплай 21 Ц. Раздражнены пан „керовнік" адказаў, што неўзабаве будзе больш справядліва. І сапраўды, на другі дзень жыхары будынка пры вул. Цёплай 21 Ц маглі глядзець толькі каўбояў III Рэчы Паспалітай. Нехта „ненаўмысна" павярнуў антэну ў другі бок. Адразу стала больш справядліва.

**рэд.**

## Кніга — твой прыяцель

Наведаў я **бібліятэку ў Старым Ляўкове** (Нараўчанская гміна), якую вядзе вопытная бібліятэкарша Аліна Барташук. Тут 6800 кніжак і 2500 чытачоў. Існуе таксама адзін бібліятэчны пункт — у Лешуках. Бібліятэкай карыстаюцца жыхары дванаццаці вёсак. Варта адзначыць, што ў бібліятэцы ёсць каля дзвюх тысяч кніжак на беларускай і рускай мовах. Чытачы беларускай літаратуры ў Старым Ляўкове і навакольных вёсках яшчэ не звяліся — аб гэтым сведчаць свежыя пазычанні. І што важна, тут знойдзем шматлікія зборнікі членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

У мінулым годзе кнігазбор стараляўкоўскай бібліятэкі павялічыўся на 110 кніжак — у асноўным гэта мастацкая літаратура для дарослых і для дзяцей. Варта дадаць, што ў кастрычніку мінулага года бібліятэку перавялі ў самаўрадавую святліцу, дзе мае яна значна лепшыя ўмовы.

Самымі актыўнымі, пастаяннымі чытачамі з'яўляюцца: Вольга Максімюк і Мар'я Крышэнь з Новага Ляўкова, Моніка Карусэвіч са Старога Ляўкова і Мар'я Бірыцкая з Падляўкова.

**Янка Ляўковіч**

## АБ'ЯВА

**Мне 57 гадоў. Рост — 173 см. У мяне 11-гадовая дачка, вышэйшая адукацыя. Без дрэнных схільнасцей, багаты, здаровы, спраўны ў кожным выпадку. Хачу пазнаёміцца з маці, жонкай, без нядобрых схільнасцей, з лагодным характарам, бесканфліктнай, жаноцкай, ва ўзросце да 45 гадоў. Існуе магчымасць весці сталовую або атрымаць добрую работу. Пажадана даслаць здымак усёй фігуры.**

**Адрас: Witold Wojszel, ul. Sikorskiego 2, 58-580 Szklarska Poręba, Polska.**




*Вельмі Шаноўны Сп. Рэдактар!*

*Высылаю Вам копію нашага „Адкрытага ліста" Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнка з надзеяй, што Вы таксама апублікуеце яго на бачынах сваёй газеты... На свой папярэдні ліст да Прэзідэнта я не атрымаў адказу і хачу, каб праз пасрэдніцтва беларускіх газет так у Рэспубліцы Беларусь, як і за мяжой, беларускае грамадства было належна паінфармаванае пра нашыя погляды па розных, для нас важных, пытаннях, звязаных з нацыянальным адраджэннем Беларусі...*

*Прашу Вас таксама надрукаваць „Адкрыты Ліст" у поўным арыгінале, уключаючы ўсе асаблівасці мовы і арфаграфіі.*

*Жыве Незалежная Беларусь!!!*

*З пашанай да Вас,*

**Алесь Алехнік**
**Генеральны Сакратар**
**Згуртавання Беларусаў у Аўстраліі**

## Адкрыты Ліст
### Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь — Александру Рыгоравічу Лукашэнка.

**Вельмі Шаноўны Сп. Прэзідэнт!**

Ужо праходзіць другая палова года з таго часу калі Вы, пад лозунгам **Антыкарупцыі і Выводу Беларусі з Эканамічнага Крызіса**, былі выбраныя першым Прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь і ўвесь беларускі народ, будучы моцна змучаным доўгагадовымі здзекамі і ашуканствам з боку розных акупантаў, з захапленнем чакаў Вашых рашучых крокаў супраць карупцыянераў аднак, да гэтага часу, спадзяванні беларускага народа не апраўдаліся і ён цяпер жыве нават горш чым да выбараў...

**СПРАВА КАРУПЦЫІ І КАРУПЦЫЯНЕРАЎ**

Падчас Прэзідэнцкіх выбараў, беларускі народ паверыў Вам, даў Вам свой голас і ўзлажыў на Вас сваю надзею што Вы ачысціце Урадавыя Установы ад карупцыянераў каторыя, як тыя паразіты, смокчуць беларускую кроў і даводзяць прыродна-багатую Рэспубліку Беларусь да стану жабрацтва!

Беларускі сумленны народ і цяпер усё-яшчэ чакае і жыве з надзеяй што Вы выканаеце свае перадвыбарчыя абяцанні — аднак нават да нас у далёкую Аўстралію ўжо даходзяць трывожныя чуткі што Вашы абяцанні падаць у суд карупцыянераў, аказаліся пустой перадвыбарчай прапагандай і што ў Новым Урадзе Вы толькі замянілі былых карупцыянераў другімі — сваімі пабочнікамі!

Надоечы мы мелі нагоду чытаць даклад зробляны ў Парламэнце Беларусі дэп. С. Антончыкам, пра карупцыю і карупцыянераў якія, як выглядае, надалей працуюць пад Вашай апекай і таксама што Вы, замест юрыдычнай праверкі прадстаўленых дэп. С. Антончыкам фактаў, пайшлі па дыктатарскаму шляху **забароны** друкавання даклада ў газэтах Рэспублікі Беларусь — з ужо цяпер сусветна ведамым, і моцна ў Вольным свеце асуджаным, эпізодам выхаду газэт з „белымі плямамі"... Тое, што Ваш супрацоўнік, Сп. Фядута, узяў на сябе віну за гэты ганебны і дыктатарскі крок — **нічым не зніжае Вашу адказнасць за яго!!!**

Мы ў Аўстраліі выказваем сваю шчырую падзяку газэце „СВАБОДА" за поўнае апублікаванне даклада дэп. С. Антончыка і моцна асуджваем тых хто ламае Канстытуцыйныя правы беларускага народа і стараецца ізноў накінуць на яго ярмо фашыстоўска--камуністычнай дыктатуры!!!

**СПРАВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЫ**

У Асноўным Законе Рэспублікі Беларусь ясна гаворыцца што дзяржаўнай мовай ёсць **беларуская мова** — дык калі, нарэшце, беларускі народ будзе мець радасць пачуць Вашы даклады і выступленні на беларускай мове???

Дарэчы тут ёсць зазначыць што, згодна маёй інфармацыі, Вы ёсць **адзіным Прэзідэнтам ў свеце каторы сароміцца дзяржаўнай мовы сваёй краіны**, і тыя аўстралійцы, каторыя цікавяцца і наглядаюць за падзеямі ў Рэспубліцы Беларусь, пытаюцца ў нас: Чаму??? Як і чым можна адказаць на гэтае пытанне??? Буду ўдзячным Вам за параду!!! Я асабіста трымаюся думкі што Вы ўсё-яшчэ вывучаеце беларускую літэратурную мову і што ў скорым часе Вы выступіце з прамовай да свайго народа на чыстай беларускай мове і гэтым дакажаце што Вы ёсць сапраўдным і гордым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь!!!

Вы надоечы ездзілі з афіцыйнай візытай ў суседнюю, Літоўскую Рэспубліку, дык дазвольце мне, калі ласка, крыху затрымацца і падсумаваць стан літоўскай мовы ў Літве і адносіны да яе Ураду Літоўскай Рэспублікі...

Як ведама, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасць яшчэ ў 1918 годзе, літоўская мова была, амаль-што, поўнасцю знішчаная — аднак Урад Літвы **не патрабаваў жоднага рэфэрэндума**, але адразу назначыў **Асобную Камісію** адзіным заданнем якой была **Аднаўленне Літоўскай Мовы** — што і было зроблена ў параўнальна скорым часе...

Таксама і цяпер, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасць некалькі гадоў таму назад, літоўская мова адразу і аўтаматычна стала дзяржаўнай мовай Літоўскай Рэспублікі і на гэтай мове гутараць лідары ўсіх палітычных плыняў — а што-ж робіцца з нашай беларускай мовай у нашай Рэспубліцы Беларусь???

Мы знаем што прыхільнікі „єдіной і неделімой" маскоўскай імпэрыі і таксама некаторыя, апанаваныя „псіхалёгіяй рабства" асобы беларускага паходжання, **моцна ненавідзяць так незалежнасць Беларусі — як і беларускую мову, гісторыю ды культуру** і гэтыя **імпэрскія адпадкі** нават маюць нахабства дамагацца „рэфэрэндума" па справе беларускай мовы і нацыянальнай сымволікі ў Рэспубліцы Беларусь... СОРАМ, ПАЗОР і ГАНЬБА!

Ці Польшча, Расея, Літва ды Фінляндыя рабілі рэфэрэндум каб знаць якая мова павінна быць дзяржаўнай у іхніх краінах??? Ніколі!!! А ці беларускі народ ёсць горшым за рускі, літоўскі ці японскі??? Таксама НЕ!!! Дык ёсць натуральным спадзявацца і верыць што ў Польшчы — польская, у Фінляндыі — фінляндская, Японіі — японская і ў Рэспубліцы Беларусь заўсёды будзе дзяржаўнай **беларуская мова** і беларускі народ таксама павінен заўсёды ганарыцца сваёй тысячагадовай нацыянальнай сымволікай, бел-чырвона-белым сцягам і гэрбам „Пагоня"!!!

На беларускай дзяржаўнай мове пісаліся славутыя Статуты-Канстытуцыі ўжо 500 гадоў таму назад і трэба запэўніць што на беларускай мове будуць пісацца ўсе Будучыя Дзяржаўныя Акты Рэспублікі Беларусь!!!

Трэба таксама прыпомніць чужынцам жывучым у Рэспубліцы Беларусь што беларусы пражываючыя ў другіх краінах света, уключаючы Расею, вывучаюць і шануюць мовы і законы гэтых краін — і чужынцы ў Беларусі таксама мусяць вывучаць і шанаваць беларускую мову і законы... Інакш і Быць Няможа!!!

Што тычыцца Вашага нэгатыўнага падыходу да беларускай-дзяржаўнай мовы, дык трэба прызнацца што за Вамі і Вашай дзейнасцю цяпер наглядаюць шматлікія аўстралійскія журналісты і палітыкі, і некаторыя журналісты ўжо займаюцца збіраннем матар'ялу для англамоўнай кніжкі пра жыццё і канвульсіі маладой Рэспублікі Беларусь і дзейнасць Яе першага, ўсенародна выбранага, Прэзідэнта... Ёсць розныя і цікавыя прапановы і сугестыі што да назову гэтай кніжкі — і адзін з тытулаў якія прапанаваліся зацікаўленымі журналістамі ёсць: „The President Who Hates His Country" — або па беларуску: „Прэзідэнт Каторы Ненавідзіць Сваю Краіну"...

Будзем спадзявацца, што гэты тытул не будзе ані патрэбным — ані рэальным у скорым часе.

Буду чакаць ад Вас парады і інфармацыі, за якія буду ўдзячным!

Няхай Жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З павагай,

**Алесь Алехнік,**
**Генеральны Сакратар**
**Згуртавання Беларусаў у Аўстраліі**
**г. Сыднэй — Аўстралія**
**Люты — 1995 г.**

## Спазнайце сваіх продкаў, сыны Беларусі!

*Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь накіраваў інфармацыю аб Беларускім генеалагічным таварыстве ў дыпламатычныя прадстаўніцтвы і консульскія ўстановы РБ. Ніжэй друкуем тэкст, які мы атрымалі з Генеральнага консульства РБ у Беластоку.*

Гаспадар хутара дзе-небудзь пад Пінскам, канешне, не ўяўляў, што праўнукі яго ўбачаць Божы свет не сярод родных пушчаў, а недзе на Далёкім Усходзе ці ўвогуле за акіянам, у Каліфорніі ці ў Агайо. Зараз настаў, нарэшце, час адшукаць тыя ніці лёсаў людскіх, якія звязваюць Уладзівасток з Навагрудкам, Буэнас-Айрэс ці Мельбурн з Палессем...

Дзякуй Богу, беларускія архівы больш не з'яўляюцца „сакрэтным фондам партыі". Паставіць іх на службу чалавеку, пераварыць у сямейны архіў кожнага жыхара і кожнага выхадца з Беларусі — вось новая, гуманная і высакародная, перспектыва. Нацыянальны архіўны фонд Рэспублікі Беларусь захоўвае звыш 20 мільёнаў спраў, якія назапашваліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Гэта ў прынцыпе дазваляе адшукаць даволі аддаленых продкаў бадай што кожнага з нашых суайчыннікаў. Трэба было бачыць здзіўленне аднаго з іх, калі ён атрымаў дакументальныя пацверджанні свайго паходжання са старажытнага шляхецкага роду, заснавальнік якога жыў на пачатку XVI стагоддзя! Можна не сумнявацца, што наперадзе нас чакае яшчэ шмат падобных шчаслівых знаходак. Калі-нікалі знойдзеныя дакументы праліваюць святло на сапраўдныя абставіны і недалёкага часу, на падзеі першай і другой сусветных войнаў. Мы разумеем, што некаторыя са звычайных канцылярскіх папер з'яўляюцца для кагосьці дарагім сведчаннем аб блізкім і родным чалавеку... Ці аб аддаленым, але прамым, непасрэдным продку — носьбіце такога ж самага, як у бацькі ці ў маці, прозвішча. Прозвішча беларускага, расейскага, польскага, яўрэйскага ці татарскага. Беларусь жа на працягу стагоддзяў была родным домам для людзей розных нацый і веравызнанняў. І праваслаўныя, і каталіцкія, і уніяцкія, і іудзейскія метрычныя кнігі былога Паўночна-Заходняга краю захаваліся ў нашых архівах у досыць вялікай колькасці. Такім чынам, існуе добрая магчымасць прасачыць паходжанне многіх нашчадкаў, выхадцаў з нашай агульнай бацькаўшчыны.

Калі вы жадаеце атрымаць дакументальныя звесткі аб сваіх далёкіх і блізкіх з Беларусі, калі ласка, звяртайцеся ў **Беларускае генеалагічнае таварыства**: вул. Калектарная, 10, пакой 208, 220048 Мінск, Рэспубліка Беларусь, тэл. (0172) 208760, (0172) 208830, факс (0172) 205120. БГТ — навуковая, культурна-асветніцкая, недзяржаўная і некамерцыйная арганізацыя, галоўная мэта якой — спрыяць даследаванню генеалогіі грамадзян ураджэнцаў Беларусі. У нас ёсць падставы разлічваць на поспех гэтай гуманнай місіі, адшукаць карані і скласці радавод літаральна кожнай асобы, чыя сямейная гісторыя звязана з Беларуссю.

## ДРУГІ СШЫТАК

Беларускае гістарычнае таварыства, якое існуе ад восені 1993 г., развівае сапраўды імпазантную выдавецкую дзейнасць. Пры канцы мінулага года паказалася кніжка Веслава Харужага „Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990"*, на пачатку гэтага — кніжка Ірэны Матус „Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej"** і толькі што выйшаў з друку другі том „Białoruskich Zeszytów Historycznych"***.

Гэты сшытак у асноўным прысвечаны гісторыі беларускага школьніцтва ад шаснаццатага стагоддзя амаль па сённяшні дзень. Мажэна Лідкэ піша пра адукацыю рускай шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім у палове XVI стагоддзя, Антон Мірановіч — пра праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI—XVIII стагоддзях, Ірэна Матус — пра царкоўныя школы ў Бельскім павеце пры канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў, Яўген Мірановіч — пра палітыку польскіх улад у адносінах да беларускага школьніцтва ў 1944-1980 гадах, Славамір Іванюк — пра ролю БГКТ у развіцці беларускай асветы ў 1956-1980 гадах, Лена Глагоўская прадстаўляе як палякі пішуць пра Беларусь і беларусаў у сваёй гістарыяграфіі.

Апрача артыкулаў у выданні змешчаны рэцэнзіі, біяграфічныя матэрыялы і камунікаты вядомых асветных дзеячаў — Аляксандра Іванюка, Зінаіды Навіцкай і Тамары Русачык.

У большасці надрукаваныя ў сшытку матэрыялы — гэта плён навуковай канферэнцыі, арганізаванай Беларускім гістарычным таварыствам у Бельску-Падляшскім у кастрычніку мінулага года.

**рэд.**

---

* W. Choruży, *Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990*, Białystok 1994, ss. 148.

** J. Matus, *Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej*, Białystok 1994, ss. 242.

*** *Białoruskie Zeszyty Historyczne*, z. 2, Białystok 1994, ss. 170.

## ДЗВЕ БЕЛАРУСІ

*Працяг са стар. 1*

нае спадчыны? Як глыбока пайшлі працэсы манкуртызацыі грамадства!

Гісторыя аднак у апошніх гадах, як ніколі, была вельмі ласкавая і шчодрая для беларусаў — адбаравала нас (даслоўна) суверэннай дзяржавай, стабільнымі межамі, нацыянальнай сімволікай і найважнейшае — зняла ў людзей страх, дазволіла марыць. Ідэя 25 Сакавіка пачынала ўваходзіць у стан рэальнасці. Маладая Беларусь пачынала планаваць самастойны быт. Але была яна ў знакамітай меншасці.

Манкурты, якія пачаткова паверылі ў дэмакратызацыю Расіі, неўзабаве пераканаліся, што ў Маскве адбываецца толькі нейкі фарс. Крамлёўскія акцёры гралі камедыю „Дэмакратыя і перабудова" для сусветнай публікі. Ельцына называлі дэмакратам нават тады, калі з танкаў стралялі ў свой парламент. Такая дэмакратызацыя вельмі падабалася беларускім бальшавікам.

„Мы абяцаем вам далучыць Беларусь да Расіі", — звярталіся да выбаршчыкаў Кебіч і Лукашэнка — галоўныя кандыдаты на пост прэзідэнта. Ці недзе яшчэ ў свеце бывае такі кур'ёз, што прэзідэнт „незалежнай дзяржавы" заяўляе гатоўнасць ісці на каленях у сталіцу суседняй краіны, каб у рукі яе кіраўнікоў аддаць лёс свайго народа? Гісторыя ведае толькі штосьці зусім адваротнае — у тым ліку нават сотні гадоў змагання за незалежнасць нацыі. Свабода — гэта штосьці такое, за што народы пасылалі на вайну сваіх найлепшых сыноў, каб толькі вольнымі жылі наступныя пакаленні. Беларусам непатрэбнае нават ніякае змаганне за сваю незалежнасць — патрэбная толькі воля існавання як народа, як згуртавання вольных людзей, як грамадзян, адказных за свой лёс і лёс свае Бацькаўшчыны. Гэта так мала, а адначасова так многа. Але гісторыя дае народам падаркі раз на тысячу гадоў. Беларусь сёння мае свае пяць мінут. Кіраўнікі дзяржавы пачалі марш назад. Узнікае тады асноўнае пытанне: ці народ здолее затрымаць шаленства правадыроў, якіх раней прывёў да ўлады?

**Яўген Мірановіч**

Да 70-годдзя Віктара Шведа

# АДРАДЖАЛЬНІК

Пра асобу Віктара Шведа і яго творчасць нельга гаварыць інакш, як толькі пра беларускага адраджэнца, які вось ужо сорак гадоў ахвярна працуе над абуджэннем і ўмацаваннем нацыянальнай свядомасці нашых суродзічаў, што апынуліся воляй гісторыі-мачахі ў Польшчы. Належыць ён да тае невялічкай, але надзвычай ахвярнай і дзейнай жменькі беларускай моладзі, у асноўным студэнтаў з Беласточчыны, якая стала зачынам „драджджамі" беларускага руху не толькі ў Варшаве, Шчэціне, Гданьску, але нават у Ленінградзе.

Свядомыя беларускія студэнты ў Варшаве сустракаліся і знаёміліся ў праваслаўных цэрквах на Празе і Волі, а дзейнасць ужо ў 1955 г. разгортвалі ў Беларускім гуртку пры Расейскім культурным таварыстве. Марылі ўсе: і ў Варшаве, і ў Шчэціне, і ў Ленінградзе пра сваю беларускую арганізацыю, газету, выдавецтва, тэатр...

Вялікімі і натужлівымі намаганнямі самай свядомай часткі беларускай грамадскасці ў часы паслясталінскай „адлігі", у 1956 г., удалося заснаваць Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Затым, як грыбы пасля дажджу, выраслі яго Галоўнае праўленне ў Беластоку, аддзелы ў Бельску, Гайнаўцы, Гарадку і іншых асяродках беларусаў. „Увесну 1956 г. арганізавалі мы аддзел БГКТ у Варшаве, — успамінае В. Швед. — Я актыўна ўключыўся ў дзейнасць аддзела, і неўзабаве мяне выбралі яго сакратаром... Мы павялі сярод моладзі і дарослых вельмі інтэнсіўную лектарскую дзейнасць, знаёмілі з беларускай літаратурай, гісторыяй, мастацтвам, а я, маючы ўжо тады журналісцкую падрыхтоўку (у 1956 г. закончыў журналістыку), пачаў працу ў „Ніве" як яе прадстаўнік у Варшаве". Потым была праца ў БГКТ і польскамоўных выдавецтвах, але заўсёды яго сэрца і думкі былі ў беларускім руху.

Такім чынам наш будучы самы ахвярны, самы дзейсны і самы плённы паэт акунуўся ў гушчу беларускага руху ў Польшчы, акунуўся свядома, рашуча, без хістанняў, назаўсёды, пра што і заявіў у сваім першым вершы „Я — беларус":

*Я — беларус, а сваёй роднай мовы*
*Яшчэ дзіцём вучыўся ад бацькоў.*
*Таму адно з той мовы нават слова*
*Мне даражэй, чым з іншых сотні слоў.*
*Я — беларус, і гэтым ганаруся.*
*Усім душу сваю магу адкрыць:*
*Ніколі і нідзе не адракуся,*
*Што беларусам жыў і буду жыць!*

І да гонару паэта неабходна сказаць, што дадзенаму слову ён верны па сённяшні дзень, ні на ёту ніколі не адступіўся...

В. Швед з першага кроку ў літаратуры дасканала ўсведамляў, што да нашых людзей прамовіць, узрушыць і пераканаць іх можа толькі паэзія зразумелая, непасрэдная, пранікнутая глыбокім пачуццём, прысвечаная таму свету спраў, падзей і думак, якія ўсіх нас акружаюць і хваляюць, як гаворыцца — свойская паэзія. І наш паэт знайшоў спосаб на такую універсальнасць мастацкага выказвання — яго вершы даступны і ўздзейнічаюць аднолькава на беларуса-інтэлігента, як і на беларуса-дзядулю, што некалі наведваў адну ці дзве зімы народную школку. Гэта вялікая заслуга нашага паэта, бо такое дасягненне дастаецца ў сусветнай літаратуры нямногім творцам. Як паказвае гісторыя, яго ўдастойваюцца толькі тыя, хто адлюстроўвае пажаданні і мары свайго народа, шчыра шануе яго і сам паходзіць з народных глыбінь. Усім гэтым патрабаванням адпавядае наш паэт (нарадзіўся ён, як вядома, 23 сакавіка 1925 г. у вёсцы Мора на Арляншчыне ў сялянскай сям'і).

Наш беларускі народ, асабліва яго неад'емная частка, што апынулася ў межах Польшчы, на працягу доўгіх стагоддзяў быў пазбаўлены права і якіх-колечы магчымасцей свабодна карыстацца сваёй роднай мовай і развіваць на ёй сваю літаратуру і іншыя віды культуры. Загналі яе яшчэ ў XVII стагоддзі ў падполле пастановай сейма ад 1697 г., забараняючы яе ўжываць у Рэчы Паспалітай. З таго часу амаль 300 доўгіх гадоў яна жыла нелегальна, патаемна, як вусная народная творчасць у штодзённай мове, песнях, казках, легендах, прыказках, былічках.

Я яшчэ і сёння памятаю, як у пачатку 1939 года (за некалькі месяцаў да гібелі II Рэчы Паспалітай) на вяселле нашага сваяка ўваліўся нікім няпрошаны паляк-паліцыянт, рассеўся на ганаровым месцы, сам сабе гарэлкуналіваў і сам найлепшую закусь са сталоў згортваў, а калі дзяўчаты-дружкі праспявалі народную вясельную беларускую песню, твар яго наліўся крывёю, ён грымнуў кулаком у стол і гаркнуў на ўсё горла: *Milczeć! Za te kacapskie bolszewickie śpiewy po was Bereza płacze.* А канцэнтрацыйны польскі лагер у Бярозе-Картузскай усім быў добра вядомы, сярод вясельнікаў таксама былі такія, што пасмакавалі ў ім „панскае ласкі". І вяселле раптам абярнулася ў паховіны, вясельнікі адзін за другім кінуліся з хаты. Вяселле разбегласа, а паліцыянт загадаў адвезці яго на пастарунак на ўрачыста прыбраным возе, якім вярталася ад вянцу ў царкве маладая пара. Хаця мне тады ішоў сёмы гадок жыцця, але да гэтага здарэння часта вярталіся мае бацькі, родзічы, знаёмыя і гэты вобраз назаўсёды ўрэзаўся ў маю памяць.

Таму-то тры стагоддзі наша роднае слова вымушана было быць надзвычай простым, агульназразумелым, з глыбокім зместам і непрыхільным уладам. Менавіта такім словам звяртаецца В. Швед да сваіх чытачоў і слухачоў. Таму кожны беларус яго разумее і кожнаму беларусу любая яго творчасць. Ён, не мудруючы ілжыва, выпеставанае народам, а загнанае ў сярмяжную штодзённшчыну роднае слова нашае падняў на вышыню высокапрафесійнай мастацкай творчасці. Паэт свядома адмовіўся ад надуманага, мудрагелістага, выкрутасістага ды вычварнага вершаплёцтва і блудаслоўя, якімі вось колькі часу засмечваюць нашу літаратуру рознай масці самазваныя „геніі".

Віктар Швед, як толькі стварыў некалькі дзесяткаў вершаў, адразу рушыў з імі ў народ, каб падарыць іх яму і пачуць ад яго ацэнку і запатрабаванні. І гэтак ездзіць і ходзіць ён вось ужо амаль 40 гадоў з вёскі ў вёску, з мястэчка ў мястэчка, са школы ў школу па ўсёй Беласточчыне і па ўсёй Польшчы, дзе жыве хоць жменька беларусаў, і сваімі вершамі будзіць і ўзмацняе нацыянальную свядомасць нашых суродзічаў, вучыць шанаваць і кахаць сваю родную зямлю, мову, культуру, традыцыю. У яго вершах паўсюдна адчуваецца тхненне і прысутнасць вернасці роднаму Праваслаўю, святой Царкве і спрадвечным нашым духоўным традыцыям.

Дагэтуль ён правёў каля дзвюх тысяч аўтарскіх сустрэч з чытачамі. Сумняваюся, ці знойдзецца яшчэ які-колечы паэт на свеце, які здзейсніў бы такі сапраўды геройскі чын. У значнай меры дзякуючы таму, што В. Швед столькі дзесяцігоддзяў нясе свае мастацкае слова ў народ, наша родная беларуская мова ўтрымліваецца да сёння сярод беларусаў, што жывуць у Польшчы.

Надзвычайнага значэння ўчынак здзяйсняе наш Юбіляр і ў адносінах да маладога пакалення беларусаў Беласточчыны і Польшчы. Гэта ж на яго вершах, змешчаных у „Зорцы", зборніках „Жыццёвыя сцежкі" (1967), „Дзяцінства прыстань" (1975), „Дружба" (1976), „Вясёлка" (1991), падручніках і іншых выданнях, ужо трэцяе пакаленне спазнае красу свае роднае мовы і культуры, успрымае іх да сэрца, становіцца свядомымі беларусамі.

І не дзіва, што многія вершы паэта пакладзены на ноты кампазітарамі, а яшчэ болей — перайнакаваны народам у песні і спяваюцца на самых вялікіх сямейных і грамадскіх урачыстасцях. Такой пашаны і такой славы не ўдастоіўся ніводзін з беластоцкіх паэтаў — ні беларускіх, ні польскіх.

І сёння Віктар Швед свае 70-годзе адзначае высокім творчым уздымам, новымі таленавітымі творамі і актыўнай дзейнасцю ў беларускім руху.

Зычым яму моцнага здароўя на доўгія-доўгія гады і вялікага плёну ў новых творчых здзяйсненнях.

**Мікола Гайдук**

# „А я ўсё яшчэ жыву, пішу..."

*Працяг са стар. 1*

выхаду на пенсію ў восемдзесят восьмым годзе.

*— Ты жыў у Варшаве, але ўся твая творчасць звязана з роднай Беласточчынай.*

— Так, Варшаве я прысвяціў усяго некалькі вершаў.

*— Бо ўся твая душа рвалася сюды. Памятаеш?*

*Я непатрэбны тут нікому,*
*У калаўроце гарадскім.*
*Мне вельмі хочацца дадому,*
*Туды, дзе буду роўны ўсім.*

*Ці адчуваеш ты сябе — сярод сваіх — „раўнейшым", чым быў у Варшаве?*

— Так. Падбудавала сям'я. Зраблю ўсё, каб выхаваць Натальку на беларуску!

*— А як асяроддзе? Прыхільнае?*

— Раней было лепш. Калісьці мяне пазнавалі, у цягніку дзяўчаты ўступалі месца: „Сядайце, пане Швед!" Пакуль даедзеш да Мора, дык некалькі чалавек пазнае. Сёння мяне ніхто ўжо не пазнае...

*— Сёння, у пагоні за грашом, людзям не хапае часу на паэзію.*

— Але ж моладзь... Калі б я ведаў, што яны не чытаюць толькі Шведа, дык было б паўбяды. Але ж яны наогул чытаюць штораз менш беларускага.

А сябры? Лаюць, як заўсёды. Года паўтара таму адзін з іх апавясціў па Беластоцкім радыё, што хаця Швед скончыў тры факультэты, то гэта яму не дапамагло ў паэтычнай творчасці. Даказваў, што я затрымаўся на шасцідзесятых гадах, не зрабіў ні кроку наперад, а тое, што пішу — гэта перапевы.

*— Некаторыя літаратурныя крытыкі сцвярджаюць, што ты ніколі не імкнуўся апранаць сваю паэзію ў модныя кашулькі.*

— Я проста вельмі здзівіўся, калі пачуў такі каментарый, бо калі той сябра выбірае ў свой час мае вершы ў друк, дык ставіў на многіх вершах... пяцёркі з плюсам!

Але не гэта было галоўнае. Усё было пададзена ў мінулым часе: быў, пісаў. Людзі пачалі званіць і выказваць спачуванні жонцы. Пыталіся, чаму не паведамілі — прыйшлі б на пахаванне. І тады я напісаў верш „А я ўсё яшчэ жыву, пішу". Яго надрукавалі ў „Ніве", і сябра абразіўся.

*— Гадам пазней у радыёперадачы „Z zapiśnika Jana Leończuka" пра цябе было сказана вельмі прыгожа: „Wciąż słyszę dalekie śpiewanie, rozrastające z pieśni żniwnej, unosi się ku niebu i łączy z anielskim czuwaniem. Nad ziemią, która leczy swoje sumienie dobrymi wierszami Wiktora Szweda.*

— На шчасце, не ўсе ў хоры нашых крытыкаў літаратуры маюць аднолькавыя галасы.

*— І ніхто з іх не мае права сказаць, што ты ў жыцці зрабіў мала!*

— Шэсць зборнікаў: „Жыццёвыя сцежкі" (Беласток, 1967), „Дзяцінства прыстань" (Беласток, 1975), „Дружба" (для дзяцей, Мінск, 1976), „Мая



Віктар Швед нясе ў "Ніву" свае вершы.

зялёная Зубровія" (Мінск, 1990), „Родны схоў" (Беласток, 1991), „Вясёлка" (для дзяцей, Беласток, 1991), а таксама цыкл вершаў у „Першай чытанцы пасля лемантара", выдадзенай у ЗША. Былі вершы ў календарах, падручніках, альманахах. Толькі ў „Ніве" я апублікаваў 1800 вершаў. Ніхто такой колькасцю не можа пахваліцца.

*— Не скажуць табе, што лічыцца якасць, а не колькасць?!*

— Ну, карыкатуры на гэту тэму я ўжо дачакаўся ад Лёніка Тарасэвіча, але ўсё роўна не магу ўстрымацца і перастаць пісаць вершы.

*— Нядаўна я гутарыла з Марыяй Аліфер, і яна мне сказала, што піша музыку на твае словы і спявае гэтыя песні з гітарай.*

— Толькі Эдуард Гойлік напісаў музыку на словы 45 маіх дзіцячых вершаў, спяваюць „Родную мову", „Бацькоўскі парог", „Беласточчыну", а калядкі, напісаныя мною ці перакладзеныя з рускай, польскай, украінскай моў, спявае калектыў „Анонім".

*— Я чула, што ты цяпер рыхтуеш анталогію польскамоўных паэтаў Беласточчыны ў перакладзе на беларускую мову.*

— Я ўжо пераклаў 120 вершаў — Веслава Казанэцкага, Ежы Плютовіча, Яна Леанчука, Крыстыны Канэцкай, Альжбеты Казлоўскай-Свянткоўскай і іншых аўтараў.

*— А на аўтарскія сустрэчы ездзіш?*

— Зрэдку. У апошні час правёў сустрэчы ў дзвюх падставовых школах у Гайнаўцы, таксама ў Орлі, Махнатым, Старым Корніне, у Настаўніцкім літаратурным клубе ў Беластоку.

*— Шмат працуеш, Віктар, хаця ты і на пенсіі.*

— Калі малая ў прадшколлі, магу папрацаваць.

***— Дзякую табе за твае вершы і за размову. Адімя калектыву „Нівы" жадаю доўгіх гадоў жыцця і няспыннага творчага натхнення.***

**Гутарыла і фатаграфавала**
**АДА ЧАЧУГА**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Хлопцы з Дубін, што каля Гайнаўкі.* **Фота Г. Кандрацюк**

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

### Гайнаўшчына

Люблю я Гайнаўшчыну нашу,
Яе ўсе сёлы, гарадкі.
Тут кожна сцежка мне знаёма
Тут пражываюць землякі. } 2х

Тут пражывалі нашы дзеды
Ї дзедаў дзеды тут жылі
Яны жылі і гаравалі
Цяпер ляжаць там дзе крыжы. } 2х

Люблю пралескі нашых вёсак,
Люблю дрымучыя лясы
Ї нашу Пушчу Белавежску
Ї сенакосныя лугі. } 2х

Люблю традыцыі я нашы,
Бо гэта продкаў нашых дар,
Якія здаўна насялялі
Маёй Падляшшыны абшар. } 2х

Люблю я родну мову нашу,
Яе не можна не любіць,
Бо навучала яе маці
Ї бацька мой так гаварыў. } 2х

Люблю народны песні нашы,
Люблю царкоўны сумны звон,
Бо гэта Гайнаўшчыны нашай
Жыцця і смерці ёсць закон. } 2х

**Дарагая „Зорка”!**

Мяне завуць Анна Аўсянюк. Я вучаніца 4„э” класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. На ўроку беларускай мовы мы гаварылі пра тое, як правялі канікулы. Я рашыла расказаць пра гэта табе, „Зорка”.

У гэтым годзе здзейснілася мая вялікая мара. У час зімовых канікул я была на басейне. Я яшчэ не ўмею добра плаваць. Пры дапамозе купальнага круга я аднак пераплыла ад пачатку да канца басейна. Гэта мяне вельмі цешыла. Многа смеху і радасці было ў час гульні вялікім мячом. Гадзіна мінула вельмі хутка. Воляй-няволяй трэба было выходзіць з вады і апранацца. Мама купіла бутэрброд, фруктовы сок. Экскурсія на басейн была цікавая, засталіся незабыўныя ўражанні.

Дома ў час канікул я таксама не сумавала. Я чытала кніжкі, рашала цікавыя задачы.

Нягледзячы на тое, што не было снегу, зімовыя канікулы лічу ўдалымі. Мінулі яны аднак вельмі хутка.

**Анна Аўсянюк**

**Ад рэдакцыі:**

*Шаноўная Аня!*

*За прыгожае апісанне сваіх канікул высылаем табе ўзнагароду — альбом для фотаздымкаў.*

## Курганы

Ці ведаеце, што толькі ў Белавежскай пушчы знаходзіцца звыш 300 курганоў? А колькі ж ужо іх раскапаных нашымі продкамі або захопнікамі. Людзі верылі, што ў курганах схаваныя скарбы і таму іх капалі.

**Курганы** — гэта зямельныя насыпы над старажытнымі магіламі памерлых. Наогул маюць яны форму круглую, дыяметрам 5—10 метраў, а вышынёй у 1—2 метры.

На беларускіх землях з'явіліся яны вельмі даўно, у III і II стагоддзях да нашай эры. Найбольш вядомыя на Палессі і Падняпроўі.

Паводле тагачасных вераванняў, курганы былі дамоўкамі памерлых. Нябожчыкам „на той свет” ставілі посуд з ежай, клалі прылады працы і зброю. У народзе курганы звычайна называюць капцамі або валатоўкамі. Часам іх памылкова лічаць татарскімі, французскімі або шведскімі магіламі. Ахутаны яны легендамі і казкамі. Не дзіва. Пахаванне такога тыпу скончылася ў сівую мінуўшчыну. Пасля прыняцця хрысціянства змяніўся стыль пахавання. Не азначае гэта, што ўжо ў X стагоддзі людзі забыліся пра курганы. Не. У такі спосаб хавалі яны нябожчыкаў яшчэ да канца XI стагоддзя. А ў глухіх і недаступных месцах звычай гэты трымаўся аж да XIV ст.

На Беларусі больш за 6 тысяч курганных могілак. Яны — каштоўныя археалагічныя помнікі і таму ахоўваюцца дзяржавай. Іх разбурэнне караецца законам.

**З-ка**

## Як заяц і вожык навыперадкі беглі

*(беларуская народная гумарэска)*

Сустрэў заяц вожыка і кажа:

— Які ты няўдалы — касалапы, і бегаеш ты памаленьку.

А вожык яму на тое:

— Ну, але бегаю я хутчэй за цябе.

— Давай на перагонкі.

— Ну, давай, толькі пайду я ў хату і паем крыху.

Вожык пайшоў, сказаў сваёй жонцы.

— Ты ідзі на тую старану паляны, а я тут буду. Калі прыбяжыць заяц скажы яму: „А я тут ужо даўно!”

Ї пабеглі заяц і вожык. Вожык крышку прабег і назад вярнуўся. А заяц бяжыць, бяжыць, бяжыць. Прыбягае, а там ужо вожык:

— А я даўно ўжо тут!

— Тады назад бяжы.

Ї зноў пабеглі. Беглі, беглі, беглі. Прыбягае, а вожык зноў перад ім.

— Я тут даўно ўжо!

З той пары перастаў заяц чапаць вожыка.

**З-ка.**



*Дзяўчаты з Малліннік.* **Фота Г. Кандрацюк**

## Скорагаворкі

Рапартаваў ды не дарапартаваў, стаў дарапартоўваць ды зарапартаваўся.

*

— У ката капыты, у каня кіпцюры?
— Не, у каня капыты, у ката кіпцюры!

*

Калы трэба перакалоць, перакалаціць.

*

Ткач ткаў хустку на таку і хукаў на руку.

# Для самых маленькіх

### Добры дзень усім!
Я — Ганна

Ані позна, ані рана
я з'явілася на свеце,
як усе, дарэчы, дзеці.
Я прыгожая дзяўчынка,
радасць маміна,
смяшынка.
Непаседа і скакуння,
галасістая пявуння,
цёмнавокая паненка,
і люблю мяняць сукенкі.

Хто са мной не пасябруе —
на сябе няхай крыўдуе.

### Начная размова

Прыйдзе дзень —
люблю я спаць,
ноччу —
з мамай размаўляць.
— Гу, агу!
Спаць не магу.
Гулі-гулі!
Вы заснулі?
Сумна быць адной Ганулі.
Як сказаць аб тым матулі?
— А-а-а, у-а!!!
Усе пачулі.

### Крапіўка

Ганна дзеду жаліцца,
што крапіўка джаліцца.
Ні зубоў няма, ні джала,
а балюча пакусала
і за ножку, і за ручку
залатую яго ўнучку.

**Ала Канапелька**

*Ганулька Пякарская — наймалодшая чытачка "Зоркі".*

## Вясёлы куточак

Марк прынёс пасведчанне, на якім ажно тры адзінкі. Пабачыўшы гэта, маці бярэ скураны паясок і хоча лупцаваць сына.
— Мамачка, а пацукоў ты баішся?
— Ну, зразумела, што баюся!
— Дык вельмі добра, бо Грышка даў і мне аднаго дзеля самаахновы.

* * *

Сустракаецца двух сяброў:
— Ці ты, Андрэй, паверыш? Мой сын вельмі хлусіць.
— Сапраўды? А колькі яму годзікаў?
— Чатыры.
— А малітву, прынамсі адну ведае?
— Ну што ты, такі дзяцюк?

* * *

Міколка вярнуўся з летнішча.
— Якія ў цябе поўныя шчочкі, ці вас там так добра кармілі? — уцешылася маці.
— Не ад ежы гэта. Я надзімаў там матрацы.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

**Малюнак да казкі „Як кот звяроў напалохаў"**

Абразок можаце выразаць, павялічыць на ксераксе і размаляваць каляровымі алоўкамі або фарбамі. Атрыманы такім чынам плакат можаце павесіць у сваім пакоі або класе.

*Ян Баршчэўскі*

# Ваўкалак

**(2)**

*(працяг; пачатак у н-ры 11)*

Алена, стоячы непадалёк, размаўляла з маці; зірнула на мяне і ад спалоху закрычала:
— Ах, што дзеецца з ім! Глядзі, мама, якія страшныя ягоныя вочы, няхай бы ішоў сабе адсюль.
Пачуў я гэтыя словы Аленіны, і мяне бы пярун выцяў: памутнела ў вачах, прытомнасць страціў; пакідаю бяседу і, не ведаючы куды ісці, бягу па дарозе, сустракаю кабету, што вяла за руку маленькае дзіця.
— Ах, не глядзі на маё дзіця, — крычыць яна мне. — Ты заб'еш яго сваім страшным позіркам.

Уцякаю ад спалоханае кабеты і бягу дадому. Падбег да свае хаты — сабака мой не пазнаў мяне. Дарэмна голасам хачу яго супакоіць: ужо слова сказаць не магу: толькі енк, падобны да выцця, выходзіў з маіх грудзей. Лютая трывога апанавала мяне. Парабак майго суседа паглядзеў на мяне і ўразіўся.
— Чаму гэта, — кажа, — твой твар і рукі абраслі поўсцю?
Гляну ў на сябе — і як непрытомны пакідаю свой дом і бягу ў поле. Жывёла, што пасвілася там, уцякае ад мяне, сабакі кідаюцца, і я хуценька хаваюся ў лесе.
Бягу праз пушчы і дзікія пустэчы, падаю ў засені густых ялін; тут, зірнуўшы на сябе, убачыў, што рукі і ногі мае ўжо перамяніліся ў воўчыя лапы; хацеў заплакаць над сваім няшчасцем — і жахлівае выццё вырвалася з маіх грудзей.
Блукаў па гарах і лясах у аблічы страшнага звера. Думкі і пачуцці ў мяне засталіся чалавечыя, памятаў мінулае і, задумваючыся пра сваё цяперашняе жыццё, мучыў сябе лютай роспаччу, не ведаючы, ці будзе калі канец гэтаму няшчасцю. У хмызняку шукаў птушыныя гнёзды, лавіў зайцоў і іншую дробную зверыну. Гэта была мая ежа. Не падыходзіў да чалавечага жытла, бо ведаў, што ўсе людзі — мае ворагі, што яны заўсёды будуць рады забіць мяне. Аднак чыніць ім шкоду не хацеў.
Нараз у нядзелю чуў голас касцельных званоў і выццём прасіў Бога, каб злітаваўся над маім лёсам. Шмат разоў хацеў падысці цёмнай ноччу да касцёла, але сабакі, выбягаючы з вёскі, адганялі мяне, а часам чуў людскія крыкі і стрэлы. Тады бег колькі змогі да лесу, каб толькі схавацца ад напасці. Кожную раніцу выў я, вітаючы сонца, ды прасіў у неба ежы на новы дзень.

Увосень, зімовымі начамі, у залевы хаваўся я дзе-небудзь пад густой ялінаю; шум вятроў акунаў мяне ў сумныя ўспаміны мінулага. Узімку почасту галодны, знясілены, блукаў у страшнейшыя маразы па полі, каб толькі ўпаляваць што-кольвек. Мой спачын заўсёды быў кароткі, і нязменна сніласся мінулае: бацькоўскі дом, сябры мае маладосці, прыязныя суседзі; тыя хвіліны, калі прыйшло каханне да Алены, забавы, нашыя размовы, яе вясёлыя вочы, яе зграбная постаць у шыкоўным строі, з вянком на галаве, — усё гэта прыходзіла да мяне ў сне, але здавалася яваю. Часам бачыў яе неспакойнаю; уцякала ад мяне або, перапалоханая, гнала мяне прэч ад сябе, як колісь на вяселлі, калі мяне падгавораны Арцём напаіў зачараванаю гарэлкаю. І пасля такога жахлівага сну, я, дрыжучы ўвесь, усхопліваўся. Некалькі год прабыў я ў такім жахлівым стане.
Расла мая нянавісць да людзей, калі думаў пра іхнія блуд, несправядлівасць, незычлівасць да роўных сабе. Вырашыў шкодзіць ім ва ўсім, як яны шкодзяць адзін аднаму пры зручным выпадку, абы толькі мець сабе карысць. Дык нападаў, калі толькі можна было, на іх жывёлу і свойскіх птушак; ніштчыў дашчэнту.
Аднаго разу (памятаю як сёння: была вясна, зелянеў лес, дні стаялі ясныя і цёплыя) я красўся ўзлескам да вёскі, дзе жыў Арцём. Бачу: на пагорку ходзяць пастухі ля жывёлы, Арцём арэ поле, а непадалёку ад хмызоў маленькая дзяўчынка пасе гусі. Ён кліча яе да сябе, называючы Ганкаю, і пасылае дахаты. Ды дзяўчынка хутка вярнулася і зноў падышла да гусей.
Я зразумеў, што гэта яго дачка. Калі з гушчару пазіраў на яе і на бацьку, запаліўся ўва мне гнеў помсты. Арцём — нягодны чалавек — даверў мяне да такога стану, што жыву, гнаны адсюль, у аблічы страшнага ваўка. Няхай жа і ён паенчыць над стратаю свайго дзіцяці! Выскокваю з лесу і хапаю дзяўчынку. На доччын голас бяжыць бацька і ў роспачы кліча на дапамогу. Чую галасы пастухоў, сабакі на мяне напалі, зубамі скусалі да крыві. Але ніштö не магло мяне стрымаць. Хутка хаваюся ў пушчы, нясу сваю здабычу ўсё далей і далей у глыб лясоў; і там, адкуль малая ўжо не вернецца сама дахаты, кідаю яе. Яна доўга ляжала непрытомная, а калі ачулася, крычала, блукаючы па лесе, роспачным галасам. Яе лямант і плач гінулі марна сярод густых хвояў і ялін, і я, цешачыся помстаю, пакінуў яе ў лясной пустэчы.
Аддаліўся ад таго месца, дзе блукала гэтая няшчасная ахвяра маёй злосці. Толькі не доўга цешыла мяне тая помста. Калі мінуўся запал гневу, прыйшла думка, што Ганка, беднае дзіцё, пакутуе без віны. Вярнуўся назад, але нідзе яе знайсці не мог; глуха было ў лесе, і голас яе ўжо не чуўся.
Напаў на мяне нязносны смутак: зразумеў, што помстаю не супакоіш пакуты. Дзе б ні быў — усюды не даюць мне спакою бацькава роспач, лямант пакінутай у лесе дачкі і сабакі, што, гонячыся за мною, раняць зубамі да крыві. Здавалася, што яны ўсюды нападаюць на мяне. Перабягу я з аднаго лесу ў другі, ды нідзе не магу знайсці спакою; прапаў сон, бо і ў час адпачынку заўсёды гучаў у маіх вушах роспачны голас бацькі, лямант дачкі, і сабакі рвалі маё цела.
Аднаго дня ўбачыў я знаёмых сялян, схаваўшыся ад паўдзённае спёкі, сядзелі яны ў засені дрэў, а непадалёку хадзілі выпражаныя з вазоў коні. Падкраўся да іх і, затаіўшыся за хмызамі, слухаў, пра што яны размаўлялі між сабою. Пачуў, як адзін з іх так мовіў пра мяне:
— Дзе ж блукае цяпер у воўчае шкуры Марка? Шкада гэтага чалавека. Вось ужо колькі год пакутуе, гаротнік. Эх, каб ён трапіў як да чараўніцы Аксіні! Кажуць, яна лёгка ператварае людзей у звяроў і зноў вяртае ім чалавечае аблічча. Не ведаю, дзе яна жыве, аднак чуў, што недалёка ад гэтых гор і лясоў.
Усцешыла мяне такая навіна: вырашыў абысці ўсе горы і лясы гэтага краю, абы толькі знайсці Аксініна жыллё. Колькі дзён і начэй блукаў без адпачынку па дзікіх пушчах! З вяршынь высокіх гор аглядаў бязлюдныя мясціны, спадзеючыся, што дзесьці там хаваецца яе самотная хаціна.

*(працяг будзе)*

# НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ (4)

## У кожным узоры вялікі сэнс

Часта арнамент быў вяршыняй народнага мастацтва. Менавіта па асаблівасцях арнаментыкі вучоныя археолагі вызначаюць, да якой культуры, якому народу належаць тыя ці іншыя рэчы, знойдзеныя падчас раскопак. Арнаментам упрыгожвалі творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архітэктурныя збудаванні, прадметы хатняга ўжытку. Найбольш выразна выяўлены асаблівасці беларускага арнаменту ў ткацтве, вышыўцы, разьбе па дрэву, кераміцы. Але ёсць таксама арнаменты плеценыя, набіваныя, гравіраваныя, маляваныя і іншыя.

Адкуль жа ўзяліся тыя ці іншыя выявы на арнаментах і што яны адлюстроўваюць? Перш за ўсё трэба сказаць, што любы арнамент выконвае дзве функцыі — семантычную, ці магічную, і эмацыянальна-псіхалагічную, ці эстэтычную.

Беларускі арнамент развіваўся пад уплывам украінскага, літоўскага, рускага і польскага арнаментальнага мастацтва. Найбольш распаўсюджаны тканы і вышываны. Амаль нязменна ўладарыць і цяпер арнамент геаметрычнага характару, у аснове якога ромб у розных варыянтах. Менавіта больш за іншыя захаваўся ромбападобны.

Ромб і круг маюць шмат цікавых тлумачэнняў, але галоўнае, што яны азначаюць сонечнае бажаство. Далей ромб, круг ці любая замкнёная лінія — гэта салярны знак, сімвал сонца. Салярнай сімволікай з'яўляецца і рытуальны хлеб — вясельны каравай, а таксама крыжы розных форм. Салярны знак — гэта дасканаласць, вышыня, якой жадалі людзі адзін аднаму, дорачы рэчы з адлюстраваннем салярных знакаў у арнаменце. Сонца дае жыццё ўсяму на зямлі, яно неўміручае.

Арнамент мае сімвалічны характар. Выявы птушак, хатніх жывёлін — наогул пажаданне дабра, здароўя, сытасці. Птушка з птушанём ці жывёліна з дзіцём — пажаданне мноства дзяцей у сям'і. Алень — высакародства, засцярога ад нядобрага. Калі, напрыклад, дзяўчына вышывала на ручніку хату, дрэвы і быццам падкрэслівала малюнак хвалепадобнай падвойнай лініяй, гэта значыла, што яна жадала выйсці замуж за хлопца, якому даравала свой твор. Сімвалам шлюбу лічылі таксама адлюстраванне дажджу. Але больш за ўсё ў арнаменце сустракаліся сонечныя знакі, бо сонца — вяршыня дрэва жыцця, а дрэва — мадэль космасу.

Сустракаюцца прадметы, на якіх арнамент выконвае перш за ўсё утылітарную, практычную функцыю. Напрыклад, драўляную цурку т.зв. жаробік чалавек выкарыстоўваў пры вязанні снапоў падчас жніва. Спачатку яна не мела аздаблення. Рука ад спякоты ды цяжкай працы хутка рабілася вільготнай, і цурка праскаквала ў руцэ. Прыйшоўшы ўвечары дахаты, чалавек узяў нож і выразаў рысачкі на тым канцы цуркі, дзе трымаўся рукой. На другі дзень працаваць было значна лягчэй: амаль непрыкметны рэльеф на драўляным прадмеце надаваў яшчэ большай практычнасці ды зручнасці, адначасова ўпрыгожваў. У даным выпадку арнамент выконвае спачатку практычную, а потым эстэтычную функцыю.

За шмат стагоддзяў свайго развіцця арнаментальнае мастацтва страціла сэнсавыя асаблівасці, засталася толькі знешняя форма тых ці іншых матываў. Не заўсёды майстрыха адкажа, навошта яна вышывае курачак альбо пеўнікаў ці выявы аленяў. Тут трэба ўлічыць тое, што мастак стварае твор, часцей кіруючыся пачуццямі ды нейкімі не вывучанымі яшчэ запраграмаваннямі. У беларускім арнаменце мы сустракаем цудоўныя ўзоры геаметрычнага, расліннага зааморфнага, антрапаморфнага, сюжэтнага арнаментаў. Кожны з іх па-свойму прыгожы, мае сваю гісторыю, свой пачатак і, безумоўна, расказвае выяўленчымі сродкамі пра талент і майстэрства нашага народа, пра характар творцаў гэтага арнаменту, пра традыцыйнасць як адметную яго рысу.

Гаворка вялася пра самабытны нацыянальны арнамент. У наш час можна сустрэць шмат розных вышываных, плеценых, нават тканых арнаментаў, якія вельмі далёкія ад традыцыі. Амаль забыліся пра дзівосна прыгожы чырвона-чорны арнамент, захапіўшыся шматколернасцю, якая часам не тое, што ўпрыгожвае, а, наадварот, робіць прадмет крыклівым, нецікавым.

## Народнае будаўніцтва

У пачатку другой паловы XIX стагоддзя ў Бельскім і ў іншых суседніх паветах селянін меў толькі неабходныя будынкі і небагаты інвентар. Хата складалася з сеняў, жылога памяшкання, з трыма і больш невялікімі аконцамі, каморы для складвання розных харчовых запасаў і адзення, прысценка — невялікага халоднага пакойчыка для гародніны. Побач з хатаю пад адным навесам будавалі адзін—два невялікія хлявы для гусей і свіней ці авечак. Кожны аселы гаспадар, недалёка ад хаты, амаль заўсёды насупраць, а часам з-заду яе, меў гумно, якое складалася з клуні і двух або больш хлявоў для рагатай жывёлы і коней. Амаль кожны гаспадар меў „шпіхер" (свіронак) з засекамі, у якія ссыпалася рознае збожжа.

Традыцыйнае будаўніцтва здзіўляе нас надзвычайнай гарманічнасцю і прыгажосцю. Вынікае гэта з дасканалага адчування прапорцыі і ведання эстэтычных вартасцей сыравіны. Аздобы можна таксама трактаваць як самароднае народнае мастацтва. Напэўна ў іх адлюстраваны народныя вераванні. Напрыклад, вільчыкі ў дамах, праўдападобна, культавага паходжання і маглі адыгрываць пэўную магічную ролю. Сустракаюцца яны ў выглядзе стылізаваных рагоў, галоў жывёл, якія называюцца казлы (мабыць, ад казла), конікі (ад каня). Зараз сустракаем вільчыкі двух відаў: адзінарныя і падвойныя. Адзінарныя вільчыкі лічаць даволі познім элементам дэкору жылля і маюць яны выгляд стылізаванай стралы, пікі, часта захоўваючы падабенства да сваіх прататыпаў, з'яўляюцца складанай ажурнай фігурай. Пры дэкаратыўным афармленні шчытоў у многіх выпадках сустракаецца матыў сонца і іншыя геаметрычныя фігуры.

У другой палове XIX стагоддзя пад уплывам дворскага і гарадскога будаўніцтва паяўляюцца ў сялянскім жыллі аздобныя ганкі, галерэі, навесы і дамы з мансардамі. Да дэкору жылля ў першую чаргу належалі разныя ці ажурныя надваконныя, часам падваконныя ліштвы, аканіцы, навугольнікі, шчыты, карнізы, дзверы і іншыя дэталі, мастацкая шалёўка шчытоў і цэлых сцен у хатах.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

## Хлусня ў жывыя вочы

Часам было б лепш нічога не чытаць і не ведаць, чым пасля нервавацца ведаючы, што гаворыш да сцяны. Ёсць у Польшчы немалая група людзей, якая жыве паводле тэорыі негра Калі з аповесці „У пустыні і ў пушчы" Генрыка Сянкевіча і гэтая група намагаецца даказаць нашаму, а нярэдка і замежнаму грамадству, што сапраўды зладзейства Калі з'яўляецца святым і Богам любімым, а грахом нават тое, калі адбярэш у Калі сваю карову.

Так даслоўна вядуць сябе абаронцы польскага, нелегальнага (!) паваеннага падполля, якое намагалася высмажыць усе беларускія вёскі, калі іх насельніцтва не выедзе ў „рай" — як яны гаварылі, гэта значыць — у Савецкі Саюз.

Са спазненнем мо пішу гэтую нататку, бо са спазненнем прачытаў я тэкст „W sprawie Listu otwartego" (Tygodnik Podlaski ад 19 лютага 1995 г.), але думаю, што ў нашай рэчаіснасці нічога не зарасце мохам, пакуль будуць такія людзі, як тыя, што падпісалі гэты „дакумент". Я не хачу палемізаваць з усім тэкстам, бо грызучыся з яго аўтарамі сам становішся падобным да іх. Але адзін абзац імі напісаны дае мне, крыху ведаючаму справу, магчымасць палажыць іх на лапаткі і давесці да ведама нашага грамадства, што ліст у рэдакцыю „Tygodnika Podlaskiego" пісалі нядобрыя людзі, якія не хочуць з нікім ніякага прымірэння. Вось гэты абзац:

„Na Białostocczyźnie trwała wojna domowa — to trzeba wyraźnie powiedzieć. Wypadki okrucieństwa zdarzały się po obu stronach, ale celowała w nich strona komunistyczna. Podziemie nigdy nie wykonywało wyroku za samo członkostwo w PPR czy MO. Jeśli jednak ktoś zaczynał współpracę z UB albo NKWD to raczej nie mógł spodziewać się bezkarności. UB-ków i Sowietów traktowano natomiast jako zdrajców i okupantów. Ale nigdy żaden z nich nie był chłostany kolczastym drutem, nie wlewano mu terpentyny do nosa, nie podpalano języka benzyną, nie wyrywano policzków obcęgami. Tak postępowali panowie z UB i NKWD z żołnierzami AK, NSZ, NZW, WIN".

Можна было б здзіўляцца рэдакцыі „Tygodnika Podlaskiego", што гэта надрукавала, але з другога боку трэба падумаць, што ўжо і рэдакцыю бярэ халера, дый узяла і надрукавала, каб падмануць непісьменных ілгуноў, якія з рогатам капаюць яму камусьці, а самі ў яе зваляцца.

Я не буду прыводзіць прыклады злачынства на салдатах Чырвонай Арміі, якім выдзеўбалі вочы і вырэзвалі на спінах зоркі, солячы іх, бо гэта былі „акупанты", якія вярталіся з Нямеччыны пасля перамогі над фашыстамі. Я не хачу займацца жонкай савецкага палкоўніка, якой распаролі жывот, каб не нарадзіла дзіцяці — бальшавіка, бо і яна была „акупанткай", хаця таксама вярталася самаходам з Нямеччыны. „Акупантамі" было таксама дванаццаць чырвонаармейцаў, якія вярталіся з фронту і па дарозе падвязлі жахара Вярхлесся Васіля Гібу. Ля гэтай жа вёскі атрад падпольных спаліў іх самаход і Васіля Гібу застрэлілі, не мучыўшы. А салдат павязалі калючым дротам, раздзелі да бялізны, пакалолі штыкамі і так параненых ды павязаных укінулі ў варонку ад бобмы, нанасілі галля і падпалілі. Не чуў іхняга болю ніхто з пішучых гэты ліст, не чуў віцэ-маршалак сённяшняга Сейма, але жыхары вёскі чулі, як гэтыя маладыя салдаты прасілі паратунку ў забойцаў.

Калі хтосьці хоча апраўдаць свае злачынствы, называючы падзеі на Беласточчыне „wojną domową", то пытаю яшчэ якой зброяй жыхары Залешан сустрэлі ўваходзячы атрад „Бурага" ў гэтую вёску? А там жа застрэлілі 2 мужчын, а жыўцом спалілі 14 асоб, у тым ліку 7 дзяцей. Чаму банда NZW спаліла вёску і жыўцом яе жыхароў за якісьці шпіталь, аб якім я ўпершыню чую. А чаму ніхто і рота не адкрые ў справе двух сем'яў Хлябічаў з Бухвалова, якіх банда расстраляла толькі за тое, што калісьці будучы парабкамі ўзялі з рэформы надзеленую ім зямлю? Загінула тады 5 чалавек дарослых і 5 дзяцей.

Але каму і навошта нейкія пералікі? Асабліва тады, калі астаецца ён Сянкевічаўскім Калі і няма да яго ніякага прыступу.

**Васіль Петручук**

# З народных песень

**Шаноўная Рэдакцыя!**

Прыйшла мне ў галаву думка, каб прапанаваць вам некалькі народных песень, вядома, з таго часу, калі праводзілася русіфікацыя Беларусі. Тады людзі памалу страчвалі сваю родную мову, прымешвалі да яе рускія словы. Аднак надалей складалі песні сабе на радасць. Мабыць, цяпер іх ужо не памятаюць і не спяваюць. Калі яны падыходзяць да публікацыі ў „Ніве", тады прашу перадаць іх вернаму Беларускаму Люду, каб падтрымаць традыцыю даўняга пакутніцтва Народа, калі ў школах вучылі выключна рускай мове. Невядомыя аўтары слоў і мелодый імкнуліся перадаць тое, што яны адчувалі сэрцам, і так, як найлепш умелі.

**Браніслаў Кавэцкі,**
**Катавіцы**

**Ад рэдакцыі:** Дзякуем за сем песень, з якіх некаторыя вядомыя і ў нашым асяроддзі. Надрукуем іх. Сёння прапануем першыя дзве песні.

* * *

У дванаццаць цёмнай ночы
Здрадлівы вуж на сэрцы лёг.
Адна узлюбленая пара
На прагулянку ў лес пайшла.

І ён шаптаў ёй па-ціхоньку:
— Пайдзём пад горку, ў лес гуляць. —
І загадаў ёй беспрыменна
Вянчальна плацце надзяваць.

Яна была яму пакорна
І бела плацце адзяёт.
Яна таго не дагадалась,
Што ён убіць яе вядзёт.

Прыйшлі у лес, ў кусты густыя.
Спярша абняў, пацалаваў,
А потым рэч яго змянілась,
Ён іздзявацца над ёй стаў.

Спярша ізбіў яе рукамі,
Потым парэзаў ўсю нажом,
І пацяклі руччы крывавы.
Ляжала Нінка пад кустом.

І вось вам дзевачкі навука —
На прагулянку ў лес хадзіць.
Яшчэ вам дзевачкі навука —
Як хуліганчыкаў любіць.







* * *

Па Дону гуляець (3 х)
Казак малады.
Лье дзевушка слёзы (3 х)
Над быстрай ракой.
Чаму дзева плачаш (3 х)
Чаму слёзы льеш.
Ну як мне не плакаць, (3 х)
Слёз горкіх не ліць.
Цыганка гадала (3 х),
За руку брала.
За леву, за праву, (3 х)
Глядзела ў глаза.
Пагібнеш ты дзева (3 х)
ў дзень свадзьбы сваёй.
Не вер ты цыганкам (3 х)
Цыганкі ўсе врут.
Як будзеш жаніцца (3 х)
Я выстраю мост.
Мост длінны, чыгунны (3 х)
Паедзеш са мной.
Чуць поезд трануўся (3 х)
Ўвесь мост задрыжаў.
Нявеста упала (3 х)
Ў шыроку раку,
Прашчай мой казача (3 х)
Я ўжо утану.
Казак атвячае: (3 х)
— Другую найду!
Ў мяне ёсць другая, (3 х)
Лепша ад цябе.






# Аб малітве „Ойча наш"

## (2)

„Ойча наш" — гэтак гучаць першыя словы малітвы Гасподняй і ўслед за імі адразу ўзнікае пытанне існавання Бога. Гэта вельмі натуральнае. Нельга шчыра сказаць „Ойча наш" без веры ў Бога. Аднак калі мы паспрабуем належна маліцца, дык неабходна нам усвядоміць на аснове чаго гэтак кажам і чаму мы верым у Бога. Дзесяцігоддзямі ў нас на Бацькаўшчыне само падазрэнне ў рэлі-гійнасці дыскваліфікавала чалавека як адсталага прасцяка ненадзейнага і непрыгоднага для адказных пасадаў у сацыялістычным грамадстве. Тым часам адказ на пытанне, чаму верым у Бога, вельмі просты!

— Веру, бо гэтак мне падказвае розум і гэтак падказвае мне сэрца.

— Веру ў Бога, бо маю розум, які падказвае мне, што без існавання Бога нельга вытлумачыць ні існаванне свету, ні само жыццё на зямлі. Розум не ў змозе даследаваць Бога, ён не здольны нават зразумець усяго, што тычыцца чалавека. „З цяжкасцю дадумоўваемся рэчаў што на зямлі і тое, што перад нашымі вачыма з цяжкасцю знаходзім; дык тое, што ў небе хто даследуе", — гаворыцца ў Святым Пісанні (Мудр., 9:16). Існоту Бога сапраўды ніколі не зразумеем, але аб тым, што Бог існуе, выразна гаворыць наш розум.

Спасылаючыся на розум і навуку, дзесяцігоддзямі праводзілася барацьба з вераю ў Бога. Але ж як узнік навакольны свет? Назіраем, што ўсё знаходзіцца ў безупынным руху, але што было пачаткам гэтага руху? У неабсяжных галактыках і ў паасобным атаме пануе парадак і гармонія, а чалавек не ў змозе загарантаваць пунктуальных і бескалізійных ад'ездаў і прыездаў некалькіх цягнікоў. Калі бачым з зямлі сонечнае святло, мы ўпэўнены, што мусіць быць і сонца. Калі бачым машыну, не сумняваемся, што нехта яе спраектаваў і выканаў. Такія прыклады можна даваць бясконца, але хопіць працытаваць вялікага вучонага Флемінга, які пісаў: „Для нас, для нашых навуковых доследаў сусвет і наогул жыццё не з'яўляецца тым, чым уяўляе матэрыялізм. Сумленнае даследаванне пытанняў быцця прыводзіць да высновы, што існуе вышэйшая істота. Фізічны свет пацвярджае, што ён быў створаны і сам з сябе не мог узнікнуць. Асноўнай тэзай матэрыялізму з'яўляецца сцверджанне, што развіццё адбывалася паступова і эвалюцыйна і свет узнік у выніку выпадковага злучэння хімічных элементаў, дзеяння сляпых сілаў прыроды... Погляд, што жыццё паўстала з неадушаўлёнай матэрыі, пярэчыць аднак вынікам даследчай навукі. Вытлумачэнне гэтых з'яў магчымае толькі тады, калі мы прызнаем існаванне Стваральніка".

Для тых, хто паверыў, што рэлігія — гэта цемната і забабоны, працытую некалькі выказванняў спецыяліста ў галіне тэхнікі Вернера Зіменса: „Чым далей, — гаварыў ён, — мы пранікаем у сферу гарманічных сілаў прыроды, якія рэгулююцца вечнымі, непахіснымі законамі, закрытымі ад нас цяжкою заслонаю, тым болей мы прымушаны да сціпласці з прычыны абмежаванасці нашых ведаў і тым болей мацнее наша прага піць з гэтай невычэрпнай крыніцы навукі і пазнання. Разам з гэтым узрастае і наша захапленне ўпарадкаванай разумнасцю, што пранізвае ўсё стварэнне".

Можна было б яшчэ цытаваць Эйнштэйна, Ньютана, Ламарка, Паскаля, Дарвіна, Паўлава, шэраг вялікіх біёлагаў, матэматыкаў, фізікаў, мастакоў, філосафаў і пісьменнікаў, якіх сапраўдныя погляды ўтойваліся ад савецкіх людзей, але хопіць і гэтага. Варта толькі памятаць, што абсалютная большасць вялікіх вучоных былі веруючымі, а значыць, мы як веруючыя, можам сябе залічваць у нядрэнную кампанію. Сапраўды вялікія вучоныя, хаця і не члены савецкіх акадэміяў навук, не маглі не дайсці да таго, аб чым гаворыцца ў Святым Пісанні: „Неразумныя тыя людзі, што не ведаюць Бога і з усіх выяваў Ягонай дабрыні не змаглі пазнаць Таго, які ёсць" (Прамудр., 13:1). Шматпакутны Іоў, не зважаючы на свае незаслужаныя пакуты, заявіў: „Спытай у жывёлы і навучыць цябе, і птушкі... і пакажа... Гавары да зямлі і адкажа табе ды будуць табе сведчыць марскія рыбы... Хто ж не ведае, што ўсё гэтае рука Гасподняя стварыла" (Іоў, 12:7-9).

Вось адказ на першую частку пытання. Але трэба яшчэ дадаць, што без існавання Бога нельга вытлумачыць жыцця на зямлі. Адна з асноўных догмаў атэізму гучыць: „Адвечна існавала матэрыя, якая знаходзіцца ў безупынным руху і якая стварыла жыццё". Выдатны амерыканскі астраном Джордж Хейл даказаў аднак цалкам адваротнае. „Прызнаць, што матэрыяльны свет існуе вечна нельга з практычных меркаванняў, паколькі на свеце не было б ужо двухвокісу вугалю, які безупынна ператвараецца ў гелій. Якім жа чынам свет дагэтуль складаецца пераважна з двухвокісу вугалю?" — пытае вялікі вучоны.

Пытанне стварэння свету нельга абысці. Вакол сябе назіраем мноства выяваў жыцця, але ж ведаючы, што жывое паўстае толькі з жывога, трэба падумаць адкуль узялося першае зерне, першае яйка, першая клетка арганізма. Адзіным разумным вытлумачэннем ёсць прызнанне стваральнага акту Бога. Мы існуем у Ім як мільярды клетак, кожная з усімі функцыямі жыцця існуе ў нашым целе. Мы зыжвем як часткі вышэйшай рэальнасці, жывем у Богу.

Верым у гэтае, бо так падказвае нам не толькі розум, але і сэрца. Калі б не было Бога, дык свет не меў бы сэнсу, мы былі б быццам лодка без руля. Без Бога наша душа не мела б сваёй Айчыны, а наша існаванне — карэнняў. Вакол нас усё нядоўгавечнае і яно не мела б сэнсу, калі б не існавала Бясконцасць. Калі б не было Бога, адкуль загарэўся б факел нашага духа, калі не ад вечнага Сонца ўсіх душаў, якое называем „Ойча наш" і які сваёй магутнасцю кіруе светам, абдараваным Яго гармоніяй і парадкам.

На гэтым нядоўгатрывалым свеце мы з'яўляемся толькі прахожымі. Абцяжараныя незлічонымі турботамі, мы вандруем да нашай ціхай прыстані, нашай Айчыны, якая ў небе, і таму не перастаем клікаць „Ойча наш".

*(працяг будзе)*

**а. Канстанцін Бандарук**

# 2-я нядзеля Вялікага Посту

*(Марк, 2:1—12)*

Другі тыдзень і нядзеля Вялікага Посту называюцца днямі „святлатворных пастоў". Царква моліцца аб жыватворным азарэнні ўсіх, хто дбайна посціцца і каецца ў сваіх грахах. У багаслужбах усхваляецца раскаянне і пост як шлях да ўнутранага азарэння чалавека з дапамогай Божай ласкі. Вучэнне аб гэтым сфармуляваў выдатны грэцкі тэолаг XIV стагоддзя, свяціцель Рыгор Палама, якога памяць Царква якраз і ўшаноўвае ў гэтую нядзелю.

У гэтую нядзелю прыпадае чытанне ўрыўка з 2-га раздзела Евангелля паводле Марка. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом у Капернауме паралізаванага чалавека, якога прынеслі на насілках чатырох чалавек. Не маючы магчымасці прабіцца праз натоўп людзей, яны апусцілі насілкі з хворым праз разабраную страху. „Ісус, бачачы веру, — чытаецца ў Евангеллі, — кажа паралітыку: даруюцца табе грахі твае". Чытаючы жа ў думках фарысеяў, якія ўспрынялі гэтыя словы як блюзнерства, Ён прамовіў: „Каб ведалі вы, што Сын Чалавечы мае ўладу на Зямлі дараваць грахі", — кажа паралітыку: „Устань, вазьмі ложак свой ды ідзі ў дом твой" (Марк, 2:1—12).

Прысутныя там успрынялі цуд па-рознаму. Для адных, ён быў умяшаннем у Божае правасуддзе, паколькі хваробы лічыліся ў Законе слушным пакараннем за грэх. Для іншых цуд быў пацвярджэннем цудадзейнай моцы Хрыста. Узаемазалежнасць паміж хваробай і грахом на першы погляд можа не быць прыкметай, але яна несумненна ёсць. У старазапаветных кнігах Левіт і Другазаконне хваробы прадстаўлены як пакаранне за непаслушэнства Богу і Закону. Парушаючы матчыныя або бацькоўскія запаветы, нават малое дзіця можа прастудзіцца ці скалечыцца. Усякая амаральнасць і парушэнне ўстаноўленых нормаў: абжорства, п'янства, распуста, ад звычайнай безадказнасці да свядомага злачынства, могуць быць прычынай хваробы або іншай бяды. Прыкладам можа быць СНІД. Праўда, што вірус хваробы можа перайсці праз пераліццё заражанай крыві або ад хворых бацькоў на дзіця, але ўсе астатнія выпадкі маюць крыніцу не ў пісанні любоўных вершаў, толькі ў распусце. Чысціня і прыстойнасць у палавых зносінах мабыць цалкам не эліміновалі б гэтай жахлівай хваробы, але напэўна абмежавалі б яе.

У евангельскім апісанні аздараўлення паралізаванага чалавека варта адзначыць факт, чаму няшчаснаму чалавеку Хрыстос у першую чаргу ахвяраваў не аздараўленне, але дараванне грахоў. Характэрна, што і сам хворы таксама не сказаў: „Я не патрабую даравання грахоў; мне патрэбнае здароўе". Ён несумненна адчуваў патрэбу аздараўлення і Хрыстос аб гэтым ведаў. Ісус хацеў паказаць, што фізічнае здароўе слушна лічыцца вялікай каштоўнасцю, але затое найбольшым злом з'яўляецца пачуццё віны і нячыстае сумленне.

Герой „Злачынства і кары" Фёдара Дастаеўскага — Раскольнікаў, хаця і не пакараны, не цешыўся пасля забойства жыццём і свабодай. Яго не злавілі, але ён усё роўна не знаходзіў сабе месца. Калі б яго апраўдалі ўсе суды, ён далей не меў бы спакою. „Нікога гэтак не бойся, як самога сябе. Унутры нас жыве справядлівы суддзя, якога голас важнейшы за ўсхваленне ўсяго свету", — пісаў св. Іаан Залатавусты. „Сумленне — сапраўдны хатні суд. Злачынца можа часам пазбегнуць чалавечага суда, але ніколі не пазбегне суда свайго сумлення", — сказаў Рыгор Багаслоў. Гераіня Дастаеўскага, Соня, дала Раскольнікаву крыж і чытала яму Евангелле. Гэта схіліла нязлоўленага забойцу добраахвотна пайсці на паліцыю, і, будучы сасланым у Сібір, пачаць новае жыццё. Некаторых дакор сумлення даводзіць да самагубства. Гэты крайні і непахвальны крок паказвае, што, сапраўды, часам нават жыццё і здароўе становяцца другараднымі. Першарадным бывае ўнутраны спакой, які бывае ад патройнага міру: з Богам, з бліжнім і са сваім сумленнем.

Усе пакуты, боль, трагедыі і сорам чалавецтва маюць, паводле Святога Пісання, крыніцы ў адным, хай сабе старамодным, слове грэх. Чалавек можа называць яго слабасцю або памылкай, але Бог лічыць яго трагедыяй. Не можам ставіцца да яго абыякава, але Бог паказвае на яго небяспеку і заклікае пазбягаць яго.

Чалавека, які звычайна не знаходзіць ні ахвоты, ні часу задумацца над сабою, Царква падахвочвае правесці самааналіз у супастаўленні з евангельскімі сюжэтамі. Насуперак чалавечаму мудрагельству і адвечным пошукам прычыны зла ўсюды, толькі не ў самім сабе, Царква дае магчымасць парваць з папярэднім спосабам жыцця і ў адказ на раскаянне вернік чуе: „Даруюцца табе грахі твае; ідзі і больш на грашы".

**а. Канстанцін Бандарук**




### Ліст, які не трапіць у рукі Адрасата

*Пісьмо д-р Раісы Жук-Грышкевіч з Канады прапаную на апамятанне прапаведнікам уніяцкай царквы на Беларусі, як уяўнага фактара беларусізацыі.*

*Янка Жамойцін*

* * *

### Яго Сьвятасьці Папу Яну Паўлу II

Сьвяты Айцец!

Зь вялікім зацікаўленьнем глядзела я сяньня на тлебачанні „Біяграфію Папы Яна Паўла II". Слухала, як Вы яшчэ з раньняй маладосьці марылі працаваць дзеля таго, каб сьвет быў лепшы й таму выбралі сабе як прафесію сьвятарства.

Глядзела й слухала як Вы ўжо будучы на Апостальскім Пасадзе, езьдзілі па сьвеце й скрозь змагаліся за правы людзкія для ўсіх людзей. Скрозь падчырквалася Вашая дабрата й няўтомнае змаганьне зь несправядлівасьцяй.

Слухала пра ўсё добрае, а маё сэрца кроілася і ў галаве было ўсьцяж адно пытаньне: Чаму, чаму Апостальскі Пасад не акажа гэтае дабраты й справядлівасьці ў адносінах да Беларускага Народу? Чаму дагэтуль ня даў беларусам-каталіком свайго беларускага біскупа? А даў раз і другі біскупа чужога паходжаньня — паляка?

Чаму так доўга Апостальскі Пасад афіцыйна не прызнаваў каталіцтва ўсходняга абраду — уніяцтва ў Беларусі, у якой — у Берасьці — уніяцтва й запачаткавалася? А калі й прызнаў, дык ізноў даў беларусам-уніятам чужога апякуна-паляка?

Чаму цэлымі гадамі Апостальскі Пасад не хацеў зацьвердзіць перакладаў літургічнай літаратуры на беларускую мову, перакладаў зробленых беларускім сьвятаром, а даў апрабату гэтых перакладаў чужому для беларусаў-уніятаў апякуну — паляку, які да гэтых перакладаў ня меў ніякага дачыненьня?

Чаму Апостальскі Пасад робіць Беларускаму Народу ня толькі крыўду, але й шкоду? Асабліва для маладых беларусаў Уніяцтва было рэлігійным выражэньнем іхнае душы і яны да яго гарнуліся, як да свайго, а цяпер з назначэньнем ім чужога апякуна й уніяцкая царква сталася невядома чым, а як праваслаўныя кажуць — польскай, калі паляк у Беларусі ёю кіруе. Гэта лёгка можа зьняверыць і адштурхнуць маладыя душы наагул ад хрысьціянства, калі яно робіць ім крыўду й шкоду. Няўжо Апостальскі Пасад хоча браць на сваё сумленьне сьмяротны грэх?

Ці змаганьне за правы чалавека адносіцца да ўсяго людзтва за выняткам беларусаў-каталікоў?!

Душа мая перапоўнена крыўдай да Апостальскага Пасаду за несправядлівыя й шкодныя Яго адносіны да Беларускага Народу. Пры такіх адносінах я нават ня пэўная, ці гэты ліст трапіць у рукі Вашай Сьвятасьці.

Слава Ісусу Хрысту!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Канада**

# Радзіма — Родзіна

**Частка II**

Пасля вайны ў нашай вёсцы пасяліўся Піліп Карэтка. Паходзіў ён недзе з-пад Пружан. У час вайны быў ён мясніком у Ялоўцы. У гэты час, будучы ўдаўцом, ажаніўся ён з маёй дваюраднай сястрой Надзяй Мядзведзь з вёскі Мядзведзі каля Нараўкі. Пасля вайны Карэтка з сям'ёй пасяліўся ў маёй вёсцы і асеў на гаспадарцы Валодзі і Аляксандра Казберукоў, якія ў час рэпатрыяцыі паехалі ў 1946 годзе ў БССР.

Піліп Карэтка быў крыху маладзейшы чым мой бацька. Характарызаваўся выключнай весялосцю. Любіў жартаваць з іншых, але не абражаўся, калі другія жартавалі з яго.

Вельмі мяне здзівіла, калі ў 1965 годзе Піліп Карэтка сказаў, што ў першым Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў у Мінскім гарнізоне, што спатыкаў вядомых бальшавіцкіх дзеячаў Ландэра, Мяснікова і што ўдзельнічаў у разгоне агульнабеларускага з'езду ў 1917 годзе. І гэта мусіла быць праўдай, бо Піліп Карэтка газет ані кніг не чытаў і з такіх крыніц не мог чэрпаць ведаў аб тагачасных падзеях у Беларусі. Ва ўспамінах Піліпа Карэткі выступілі даволі доўгія разважанні аб зараджэнні яго нацыянальнай свядомасці і аб тым, як ён трактуе Радзіму. З гэтых прычын выказванні Піліпа Карэткі маюць вельмі істотнае значэнне для маёй тэмы. Вось фрагменты ўспамінаў майго размоўцы:

„Я, брацішку, быў салдатам разервнога палка ў Мінску, калі яшчэ ні пачалася бальшавіцка рэвалюцыя ў Маскве і Піцеры. Але ў гэтым часе то ужэ ад бальшавікоў то аж кішэло ў Мінску. Ваны ўсе склікалі міцінгі і гаварылі аб справядлівасці, аб роўнасці, аб зямлі для мужыкоў і фабрыках для рабочых. Крычалі таксамо, што царска Расея была цюрмою народаў і што ваны, значыцца бальшавікі, дадут свабоду ўсім народам. Я то ведомо, што лічыў сябе рускім праваслаўным чалавеком. Аж тут у наш полк пачалі прыязджаць агітатары, каторы гаварылі, што рускі народ і беларускі народ то гэто разны народы і што Беларусь павінна меці свае аддзельна гасударство.

Ты знаеш, брацішку, як я гэто пачуў, то пару начэй нават ні спаў, усё думаў і думаў пра гэту штуку, ну і яно так выходзіло, што гэто ж было б добрэ.

Ну, але наш полк то як бы падлягаў Ландзеру, каторы быў латышом і Мяснікову, каторы быў арменцам. То значыцца ваны былі як бы пасланцамі ад Леніна і ваны крычалі, што пралетарыят усяго свету павінен меці адну родзіну.

А трэбо сказаці, што ў нашым палку то каля палавіны салдат то былі ўраджэнцы Беларусі. Ведомо, што быў гэто розны народ. Але ўсё ж такі для большасці то тыя беларускія агітатары, каторы былі за незалежнасцю Беларусі, падабаліся больш чым тыя, што крычалі за Расею. Ну але главны начальнікі то былі Ландзер і Мяснікоў, асабліва тады, калі ўжо рэвалюцыя пабедзіла і ў Маскве, і ў Піцеры.

Я то найбольш запомніў як да нас у полк прыехаў хібо што капітан з такою якоюсь падвойнаю фаміліяю Рак Міхжэйскі або штось такое. Ну то вон вельмі шпарка і на беларускім языку гаварыў аб тым, што прыйшла, значыцца, аказія для таго, каб Беларусь узяла сваю судзьбу ў свае рукі. Харошы быў мужчына і відно разумны. То вон, брацішку на адным міцінгу гаварыў, што беларусы з усіх куткоў краю павінны выбраць дзелегатаў і гэты дзелегаты павінны забрацца на вялікім з'ездзі і што гэты з'езд павінен выбраці дарогу, па каторай пойдзе цэлы беларускі народ. Ну, кроме яго то прыязджалі многі іншы. Так што ў канцы канцоў мы выбралі з сваго палка дзелегата. Гэто быў ефрэйтар, каторы падаўся ў бальшавікі. Ну, але вон таксамо моцно, значыцца, стаяў за незалежную Беларусь, то таму мы яго і выбралі".

**Алесь Барскі**

# Скарачэнне дарогі

Аднаго звалі Каняй, бо нарадзіўся якраз у той момант, калі першым сакратаром польскай кампартыі быў Станіслаў Каня. У вёсцы казалі, што будзе з яго немалы фраер. Яшчэ будучы немаўлятам, упаў ён голы ў крапіву, дзе праляжаў паўгадзіны, не піснуўшы нават. Цэлыя плечы і дупу меў у адных пухірах.

— Калі ты з гэтага выжыў, — сказалі відавочнікі здарэння, — ніякая халера цябе ў жыцці не возьме.

Каня быў у апошнім класе пачатковай школы. Яго калега — Піліпкаў сын — меў гадоў адзінаццаць—дванаццаць і фарсіў на вялікага кавалера. Меў з метр дваццаць, калі ў шапцы, але...

— І ты ўжо без шапкі ходзіш? — запытала яго мая мама.

Піліпкаў сын не адказаў нічога, толькі горда пакруціў галавою. Ой, які ўжо з яго кавалер! Валасы, як на кавалера, меў падцятыя так сабе. „На гаршчок", як у нас кажуць. Кладуць такому гаршчок на галаву і абрэзваюць, што з-пад яго выстае.

Прыбеглі на панадворак абодва, за дапамогай. Ехалі так трактарам у суседнюю вёску да сваіх сябрукоў са школы. Трактар вёў Каня. Бацька самахода яму яшчэ не даваў. Піліпка прыклеіўся збоку. Ехалі, ехалі і ўваліліся ў балота, бо задумалася ім скарацідь дарогу. Трактар завяз — ні дапераду, ні ўзад.

— Трэба якую ліну і трактар, — паспяшаўся з парадай Каня, — тады выцягнем.

Адно і другое ў мяне было. Трактар, праўда, стаяў ужо які месяц—паўтара без руху, але запусціць неяк удалося. Каня прысеўся ў кабіне збоку, а Піліпка пабег перадам, падскокваючы. Дарога напрасткі, якою хлопчыкі хацелі скараціць сваё падарожжа, вяла лугамі. У адным месцы, на паваропе, луг абніжаўся, стаяла там вада. Ехаць туды можна было толькі ў лодцы. Хлопчыкі заехалі трактарам у самую сярэдзіну дрыгвы — пра такіх можна сказаць толькі адно: прыдуркі. Луг навокал быў вязкі, ніяк падступіцца, каб хоць крышку цвёрдага грунту пад коламі. Нічога не будзе, падумалася мне ўжо з першага пагляду, але ж не кажу нічога. Зачапіў ліну і спрабаваў пацягнуць адзін разок. Трактар стаў вязнуць у месцы. Кінуў гэта.

— Пашукай якіхсьці сто метраў ліны, каб цягнуць з цвёрдага грунту, — кажу да Кані, — тады можа нешта будзе.

— Што ты, я зараз збегаю па Валодзю, трэба на два трактары, — Каня ведаў усё найлепей у свеце.

Прыехаў яшчэ мой сусед Валодзя са сваім трактарам. Цягнулі ўдвух і таксама нічога. Тады Каня паверыў, што трэба даўжэйшую ліну.

— Прынясу, — кажа, — чатыры—пяць кавалкаў. А вы тут пачакайце.

Каню панясло праз поле ў вёску. Нейкі час яго не было. Піліпкаў сын гэтым часам, нібы вялікі задавака, сеў у завязлы ў дрыгву трактар і дррр-дррр-дррр пачаў круціць рулём. Ой, які ўжо з яго шафёр!

Каня вяртаўся! Спярша дайшло гэта да вушаў. У паветры расло гудзенне нейкай сапраўды вялікай машыны. Праз пару хвілін я яе ўбачыў. Гэта ехаў Валодзька з другога канца вёскі сваім „эм-тэ-зэтам" ад Мартынюка з Нарвы. А з ім у кабіне сядзеў Каня. Ну і пацягнем!

Валодзька ірвануў раз „на быка". Пайшла мая сталёвая ліна. Зараз яе нанава звязалі на два трактары. Ірвануў яшчэ раз і выцягнуў. Ну і мае той „эм-тэ-зэт" і сілу, і хуткасць.

Каня забег яшчэ на мой панадворак памыць рукі. Не было б у гэтай гісторыі нічога надзвычайнага, калі б не факт, што Каня ўжо раз, мінулай вясною, завяз у гэтым самым месцы. Выцягнуў яго тады, а затым і вылаяў мой пакойны бацька. Гэтым разам усё дзеялася ў Божую нядзельку. Сяло маё не такое ўжо і вялікае, таму можна лічыць, што двух серуноў завярнула дупу для паловы гаспадароў у ім.

**(ам)**

# Чалавек і ваўкі

Чалавек у сапраўднасці няшмат ведае аб акружаючай яго прыродзе, нават калі жыве, напрыклад, паблізу лесу. Трэба многа гадоў назірання, каб даведацца больш аб жыцці пушчы. Вось я цяпер ведаю, што ваўкі свой гон пачынаюць недзе каля нашых Грамніц. Збіраюцца тады ў ватагі і ў той час найбольш небяспечныя. Вось што расказваў былы жыхар вёскі Б., спадар П.

— Быў я тады маладым хлопцам. Ехаў у водпуск дадому з арміі. У кішэні меў чатыры петарды. Зімовыя дні кароткія, нават за Новым годам. Калі прыехаў цягніком у Г., а восьмай вечара было ўжо цёмна, вядома, палова лютага. Да маёй вёскі трэба было ісці тры кіламетры, і то лесам. Іду, а тут як не пачне нешта гурчаць! Сабакі, ці што?! Пачуў я больш галасоў, усё грамчэйшых. Адкуль ноччу на ўскраіне пушчы сабакі?! Ой, гэта ж будуць ваўкі! Якраз гон пачаўся. Возьмуцца за мяне, няхай толькі счуюць! А я — якраз на паўдарозе дадому. Успомніў я свае петарды. Кінуў адну. Ваўкі залямантавалі, пачалі ўцякаць. Калі кінуў другую і трэцюю, ваўкі на ўсе лапы пагналіся ў лес. І я таксама папёр дадому, ледзь дых лапаў...

Меў сустрэчу спадар П. і з вужамі, калі тыя, як птушкі перад выраем, збіраюцца ў чароды і агулам хаваюцца ў свае норы. Людзі кажуць, што дзень гэты выпадае 27 верасня, у дзень Уздзвіжання Крыжа Гасподняга. Старажылы перасцерагаюць: не ідзіце ў той дзень у лес, бо можа гэта скончыцца нават і трагічна.

Спадар П. быў у той час юнаком. Прыехаў у адзін з кварталаў Лядскай пушчы на матаролеры „Камар". Дзень быў прыгожы, сонечны. Ішоў, шукаў грыбоў, і пачуў, як моцна шамаціць апалая з дрэў лістота. Глянуў, і валасы яму дыбам сталі. Перад ім поўз роўны рад, адзін за адным, вужоў. Пераляканы хлопец кінуўся наўцёкі. Больш у той дзень у лес не ідзе.

Яшчэ дзяўчынкай чула я гісторыю, як ішла адна жанчына з Нараўкі ў Семяноўку. Хто ведае гэты шлях, знае, што ад вёскі Лясной да семяноўскіх лугоў цягнецца лес. Ад лесу да вёскі — два кіламетры. Жанчына заўважыла воўчую ватагу. Калі сустрэнеш ваўкоў, і яны цябе ўчуюць і пачнуць за табой гнацца — вядома, не ўцячэш. Жанчына хутка пабегла, каб яе звяры не заўважылі, але ўсё ж яе знюхалі і пабеглі следам. Жанчына скінула сваё паліто з доўгімі поламі. Упала на снег і накрылася палітом. Ваўкі падбеглі. Воўк панюхаў знаходку, падняў нагу ды сікнуў на паліто. Тады і рэшта ваўкоў зрабіла тое ж і пабеглі далей. Жанчына апранула адзежу і рада пайшла дадому. Сабакі яе ў вёску не пусцілі, кінуліся так, што амаль не раздзерлі яе разам з яе вопраткай. Суседзі вынеслі ёй іншае адзенне, і толькі тады сабакі дазволілі ёй дайсці дадому.

Чула я яшчэ, што ваўкі могуць кінуцца на жанчыну, у якой месячныя, у любы час. Лепш тады ў лес не ісці!

**Аўрора**

# У што верыць чалавеку?

Я, Вандал Арлянскі, веру ў пазамагільнае жыццё. Выключна ў такое, бо жыццё ў магіле гэта хіба толькі існаванне чарвяка. Веру і ў тое, што чалавек створаны на Божае падабенства, бо дадзены яму: стварэнне, называнне (мова) і воля. Думаю, что Айцец, ствараючы Адама, кіраваўся таксама і цікавасцю, што атрымаецца, калі скарыстаць не толькі слова, але і матэрыю. І меў Ён надзею, што твор удасца, бо ляпіў Адама і ствараў з ягонае рабрыны Еву з бацькоўскаю любоўю і пяшчотаю, як сваіх наймалодшых дзетак. А чалавек, які ёсць, самі бачым. Я дагэтуль веру ў тое, што чалавецтва рухаецца наперад, хаця ўжо настолькі адышло ад райскае натуры — перш за ўсё ад гарманічнага суіснавання чалавека з прыродай і натуральных паводзін, выніку паслухмянасці чыстым і простым боскім правілам. Але Адам і Мафусаіл жылі сотні гадоў, а цяперашні чалавек, разумны штучнымі прэпараванымі мазгамі, узброены хіміяй, фізікай і матэматыкай у лякарствы і сілы, якія перамагуць усякую (амаль) біду, рэдка які дацягне да ста годзікаў, ужо ў дваццаць пачынае траціць свае сталыя зубы, лысее, слабее... Калі не заб'е яго ім выбраная атрута, яго дурная асалода — тытунь, гарэлка, наркотык ці нават нявінная кава, то трапіць пад машыну, у авіякатастрофу, у бойку пад клубам ці на стадыёне або заб'юць яго ў абсалютна бязглуздай вайне (яны ўсе такія былі, ёсць і будуць). Старажылы матаюць галовамі: вядома, канец свету, во-во, у Сыбіллі напісана, Настрадамусы ўсякія прадказвалі, у Апакаліпсісе як вол стаіць, як яно ўсё гэта будзе ў апошні час! Ці не атручаныя рэкі крывёю сплываюць? Ці не рухаюцца горы ад захаду на ўсход ды ад поўдня на поўнач?.. А страшныя войны? Так, дарэчы, было заўсёды, асабліва на выхадзе стагоддзяў.

Чалавеку хочацца верыць, што існуе па-за гэтым жыццём, несумненна цікавым, хаця поўным жаху, болю, зла і пакут, штосьці іншае. Што гэта — лепшае быццё. За пакуты — рай, за ўчыненае зло — палаючае пекла ці, пасля пабыўкі ў чысцы, адмыцці грахоў — адпачынак на райскім улонні. А, можа, і раней удасца скаштаваць хоць хвіліну раскошы, прыемнасці, матэрыяльнага багацця?.. Зусім сур'ёзныя і верующыя людзі зачытваюцца менш ці больш прафесійна састаўленымі гараскопамі, прадказаннямі, плацяць немалыя грошы розным магам, чараўнікам, варожкам. У сучасна абсталяваныя фірмы прымаюць на працу людзей, загадзя праштудзіраваўшы іх гараскопы і праверыўшы характар па почырку пісьма. За заслону таемнага заглядаюць палітыкі, бізнесмены, эканамісты, нават такія, ад якіх залежыць лёс немалых дзяржаў. Не гавару тут пра мільёны „простых" жанок і мужыкоў, якім не хапае грошай пад канец месяца, каб купіць хлеб, але якія набудуць газету з гараскопам, у якім прадказваюцца Казярогу выйгрыш у лато, а Вадалею — павышенне на працы, купяць талісман, які выратуе іх ад раптоўнай смерці і пераможа кепскія варожыя ўплывы. Або пойдуць да варожкі, якая, прагрэсіўная, аб'яўляе свае паслугі ў штодзённых. А ў такой прагрэсіўнай дзяржаве, як былы СССР, усе прылаўкі кніжных магазінаў і шапікаў ды проста лавачкі на тратуарах завалены сотнямі, тысячамі, мільёнамі экзэмпляраў спірытысцкай, акультысцкай, астралагічнай, сатанінскай, таемнай „духовай" літаратуры. На выхадзе стагоддзяў, у пераломныя, хісткія часы ажывае дух таемнага, які маецца быць паратункам для душы і тлумачэннем усё незразумелага свету і сусвету.

Ну а я веру ў жыццё пазамагільнае. Бо толькі такое існуе ў сапраўднасці, па-за магілай. А яно — жывое, непрадказальнае, і таму найбольш цікавае!

**Вандал Арлянскі**

# Перастрэлка па-варшаўску

У тэлебачанні і газетах нарабілі крыку, што ў Маскве застрэлілі журналіста. Не было б у гэтым нічога дзіўнага — у журналістаў страляюць на цэлым свеце. Ды не адно толькі да іх. Таксама і ў Маскве. Толькі гэты выпадак атрымаў шырокую вядомасць таму, што застрэлілі журналісцкую шышку, якая дзе-каму стала нявыгаднай. Так папраўдзе, то не павінна быць у гэтым нічога асаблівага: для маскоўскай дзяржавы паленіка з праціўнікам з дапамогай ружжа з'яўляецца быццам бы генетычнай рысай гэтай дзяржавы. Вялікую славу ў сусветнай гісторыі атрымалі такія выдатныя маскоўскія „палемісты" як Іван Жахлівы ці Іосіф Джугашвілі, пра многіх іншых, для эканоміі месца і часу, не ўспамінаючы. У сённяшні час г.зв. цывілізаваны свет з захапленнем заглядзеўся на цяперашняга маскоўскага прэзідэнта, бачачы ў ім амаль адзінага гаранта дэмакратыі ў цэлай ягонай дзяржаве. Як жа ён гэтую дэмакратыю ажыццяўляе? Два гады таму паміж прэзідэнтам і парламентам узнік нейкі канфлікт, які дайшоў да таго, што парламент патрабаваў адстаўкі прэзідэнта, а прэзідэнт патрабаваў роспуску парламента. У дзяржавах, якіх дэмакратычнымі называюць не толькі іх уладары але і апошнія грамадзяне, за такі канфлікт узяліся б юрысты, спецыялісты па канстытуцыйных законах. Расею дзе-хто лічыць дэмакратычнай дзяржавай. І Расея ёю з'яўляецца — там папера лічыцца толькі паперай, незалежна ад таго, якая яна: туалетная ці кніжка з загалоўкам „Канстытуцыя". „Бумага всё стерпит". І таму ў Расеі ніхто сур'ёзны на такое глупства, як, толькі папяровы, закон не звяртае ўвагі. Прэзідэнт, якому было бліжэй да арміі, загадаў даць агонь па парламенце і такім чынам вырашыў спрэчнае канстытуцыйнае пытанне. Пра вайну ў Чачні можна сказаць тое самае, бо і ў самой Чачні палітычная культура, здаецца, не надта адрозная ад маскоўскай. У гэтым месцы можа ўзнікнуць пытанне: чаго я, жыхар а да таго ж і грамадзянін Польшчы, загледзеўся на далёкія экзатычныя краіны? А ці ў нас то няма на што паглядзець? Ці ў нас, у Польшчы, няма канфліктаў у вярхах? Ці няма нявыгадных людзей? Адказ на гэтыя пытанні не павінен выклікаць у нас збянтэжанасці: наша краіна таксама на гэта ўсё багатая! Возьмем, напрыклад, такую сітуацыю ў вярхах: там не тое, што звычайны канфлікт, але „вайна". „Вайна" гэтая такая, як і ў Маскве: прэзідэнт хоча чарговага роспуску парламента, а парламент думае як абмежаваць прэзідэнцкія кампетэнцыі. Па некаторых пытаннях, адносна якіх у вярхах няма згоды, нашыя бакі звяртаюцца пакуль што не да вайскоўцаў, як у Маскве, а да юрыстаў — у Канстытуцыйны трыбунал. А Канстытуцыйны трыбунал у нас добры, добры. Вырашае так, каб усе мелі як найбольш рацыі. Ах, які добры трыбунал! І нават калі нядаўна здарыўся ў Варшаве канфуз, наш Канстытуцыйны трыбунал паказаў сябе з як найлепшага боку. А што гэта быў за канфуз? А вось, міністр юстыцыі рашыў завесці справядлівасць і загадаў правесці расследаванне, хто з высокіх чыноўнікаў атрымоўваў дадатковую незаконную зарплату. Такое расследаванне было праведзена і ў яго выніку паўстаў спісак апальных ураднікаў. Непрыемны канфуз, бо невядома, што з такімі ураднікамі зрабіць. І за гэтае пытанне ўзяўся наш Канстытуцыйны трыбунал. І вырашыў гэты наш трыбунал, што людзі, якія прыграблі грошы нязгодна з законам, нічога дрэннага не зрабілі. Ах, які добры гэты наш Канстытуцыйны трыбунал. Толькі вось гэты міністр... Ну, мог бы чапляцца да ўсіх гэтых махляроў, але каб да партыйных калег... Гэтага ўжо замнога! Можна было б, праўда, пазбыцца такога нявыгаднага гарэзы маскоўскім метадам, але ж не для гэтага Польшча вызвалялася на суверэнітэт. Да таго ж Польшча гэта не агромністая Расея і ўсякіх завадатараў, нават у белых рукавічках, намнога тут лягчэй знайсці — а гэта пахне непрыемнай рызыкай. Таму нявыгаднага міністра назначылі віцэ-маршалкам парламента: на гэтай пасадзе завялікага шуму то ён ужо не наробіць, хіба што на нейкай сесіі здрамае і захрапе. А міністрам юстыцыі стаў шматгадовы партыйны апаратчык. Зроблена ветліва і элегантна, быццам у Канстытуцыйным трыбунале. І ў гэтым месцы можа ўзнікнуць наступнае пытанне: а чаго я пхаюся з гэтым сваім міністрам на старонкі „Нівы"? Ой людзі, людзі добрыя! Ад парламенцкіх выбараў мінула ўсяго паўтара годзіка, а вы ўжо пра іх забылі? Патрэбныя, відаць, вам, як і прэзідэнту, новыя парламенцкія выбары. А гэта згоднасць з прэзідэнтам абазначае, што дзе-хто і з нас мог бы прэзідэнтам стаць. А прэзідэнцкія выбары не за гарамі! Ну!..

**Адам Маньяк**




Ой, Астроне, прысніўся мне сон, які, здаецца, штосьці кепскае прадвяшчае. Быццам мы з мужам і мужаў сваяк з жонкай знаходзімся ў нейкай зале. Там стаіць застаўлены па-святочнаму стол. І на гэтым стале канцэнтруецца мая ўвага. Гляджу на стравы. Бачу, на талерцы рыба — карп. Што на іншых талерках — не памятаю. І ўжо я побач таго стала з падлогі падымаю прасціну. Прасціна ільняная. Я хачу яе зладжыць. Але ніяк мне гэта не ўдаецца. Яна нейкая цяжкая, ды моцна пабруджаная. Нейкія маладыя людзі хочуць мне ў гэтым дапамагчы. І канец сну. Не памятаю, каб сядалі мы за той стол ці што елі.

**Марыя**

Марыя! Ты ўжо сама амаль разгадала свой сон: ён сапраўды кепскі.

Ужо тое, што вы з мужам і яго сваякамі апынуліся ў зале, дзе быў застаўлены стол, нядобра. Але ёсць тут указанне на асобныя стравы. Тваю увагу звярнула рыба. А рыба, калі б яна снілася жывая (бачыць ці лавіць яе), дык абазначала б нейкі цяжкі, але надта выгадны занятак. Калі сніцца мёртвая рыба (бачыць ці есці яе), дык можа яна прадвяшчаць хваробу страўніка або нейкую іншую непрыемнасць. Я б тут быў за хваробу, бо і другі істотны элемент тваёго сну — прасціна — абазначае тое ж. Прасціна ж гэта пасцель, а пасцель, яна нічога добрага не прадвяшчае, а хваробу. А да ўсяго таго прасціна была цяжкая і вельмі пабруджаная.

Так можа быць, што і хвароба будзе нялёгкая. Але ж нейкія маладыя людзі хацелі памагчы табе, праўда?! Дык ёсць надзея на выздараўленне!

**АСТРОН**




**Зімою**

Яшчэ на дварэ мароз і не мінула небяспека абмарозіцца, прастудзіцца. Небяспечныя і сакавіцкія вятры, завеі, завірухі. Таму мы прапануем некалькі парад, якія дазволяць лягчэй перанесці холад, мароз.

Не трэба прывыкаць да цяпла ў кватэры: сачыць, каб тэмпература не была вышэй 18—20°C. Асабліва важна гэта ўначы. Лепш накрывайцеся лішняй коўдрай, хай у кватэры будзе свежае паветра.

Не залежвайцеся ў ложку — ледзь прачнуліся, адразу ўставайце, зрабіце абавязкова некалькі жвавых практыкаванняў.

На снеданне ешце толькі гарачае, бо інакш будзеце мерзнуць на аўтобусным прыпынку, на рабоце. Карысна ўранку выпіць кубак гарачага малака з лустай хлеба, намазанага мёдам, тварагом або варэннем.

У першую чаргу паклапаціцеся пра ногі — яны замярзаюць хутчэй за ўсё. Не насіце тонкіх капронавых панчох, бо гэта можа прывесці да рэўматызму. Вельмі зручна адзяваць калготкі, асабліва шарсцяныя. Абутак павінен быць слабкі, каб не парушаць кровазвароту, каб можна было адзець шарсцяныя шкарпэткі. У памяшканні боты здыміце, бо інакш да ног не паступае паветра, змяншаецца прыток крыві і ледзь выйдзеце на вуліцу, як ногі аледзянеюць.

Калі ногі пачалі настываць, стукніце сябе некалькі разоў пад каленкамі рабром далоні — гэта ўзмоцніць кровазварот. Пры вельмі вялікім марозе ў панчохі і ў шкарпэткі насыпаць крыху сухой гарчыцы (у тым выпадку, калі вам давядзецца правесці цэлы дзень на вуліцы). Асабліва гэта трэба рабіць тым, хто працуе ў адкрытых кіёсках і ларках. У каго ногі стынуць уначы раім спаць у шарсцяных шкарпэтках.

У моцныя маразы, пры моцным ветры насіце цёплую бялізну. Запомніце, што апранутая пад світар звычайная трыкатажная футболка грэе гэтак жа як і шарсцяная.

**Ясень**

# ВІРАВАНКА



1. чахол на акуляры, 2. дзяржава з Рыгай, 3. беспаветраная прастора, 4. фантазія, неажыццявімая мара, 5. марскі разбойнік, 6. умоўнае абазначэнне, знак, 7. кіслая аўсяная калядная страва, 8. праваслаўная святыня, 9. савецкая ферма, 10. весялун, непаседа, 11. рэгіён на ўсходзе Францыі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 5 н-ра:**

**Гарызантальна:** КПСС, Сірэт, тройка, літр, вальс, упадак, вадаспад, вазак, аптыміст, стараста, ікона, кастрыца, камора, арэна, гаць, справа, Пекін, німб.

**Вертыкальна:** сірата, Зэльва, псіхапат, струп, голад, экран, сакратар, патыліца, вусы, знак, кіно, Этна, пабрацім, караед, Нанкін, малпа, колас, саган.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 412. Уладзімір Асіпюк (Чыжыкі) | — 6 зл. |
| 4 413. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 15 зл. |
| 4 414. Мікалай Гайдук (Беласток) | — 10 зл. |
| 4 415. Ахвяраванні сабраныя на раённым аглядзе „Беларуская песня'95" у Гайнаўцы 12.02.1995 г. і на гала-канцэрце II Фестывалю „Беларуская песня'95" у Беластоку 26.02.1995 г. | — 536,13 зл. |
| 4 416. Павел Бушко (Гайнаўка) | — 20 зл. |
| 4 417. Інакенцій Сідарук (Гайнаўка) | — 20 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міроновіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Пародыі

*Тады магу стацца*
*нават кабылай,...*
**(Алесь Барскі,**
**„Каб толькі быў у стане")**

Магу стацца нават кабылай,
То ўлева, то ўправа махаць хвастом
І патрасаць залётна грывай,
Ці задам вярцець перад канём.

Магу таксама быць свінёю
І чухацца аб жэрдку ў плоце,
Выйсці з карыта, памясіць гною,
Калюжыцца ў свіным балоце...

Магу таксама стаць каровай
І цэлы дзень мычаць у полі,
Да бугая каб маладога:
Пабыдлаваць сабе ўволю.

Ахвотна магу стаць авечкай:
За бараном бегаць рагатым.
А пры нагодзе недзе ў грэчку
Адбіцца з маркачом кудлатым.

Стаць курыцай магу таксама
І як квактуха сесць на яйца,
Каб часам вечарам ці рана
Пашчупаў хто вялікім пальцам.

І бабай магу стаць шалёнай
З разбэшчаным звярыным тварам,
Каб вершаплёт мною натхнёны
Паперу крэмзаў музаў дарам.

**Адам Маньяк**

## НІЎКА

НЕ МОЖАШ ПРАЦАВАЦЬ ГАЛАВОЙ,
ПРАЦУЙ НАГАМІ...

**Мал. П. Козіча**

## СЕНТЭНЦЫІ

Падманутае каханне, як сонца ў ночы, не засвеціць.

* * *

Бізун не свішча, гэта ад болю енчыць паветра.

* * *

І розум мае хвіліны слабасці.

**Барыс Руско**

## ЖАХ

*Так называецца першы нумар часопіса, які лічыць сябе выданнем дзяцей, прывідаў і пачвараў (трупень — падалень 1994 г.; хутчэй за ўсё чэрвень). Рэдакцыя „Жаху" паведамляе такі адрас для карэспандэнцыі: Кальварыйскія могілкі ў Менску, пятая магіла злева, два метры пад зямлёю. Вось анекдот з гэтага жудаснага выдання:*

* * *

Вырашылі Чапаеў і Пецька паступіць у беларускае войска, але ім сказалі, што пакуль яны не здадуць іспытаў па беларускай мове, іх туды ня возьмуць. І дамовіўся Пецька з Васілём Іванавічам, што ён на дрэве сядзе і будзе падказваць Васілю Іванавічу, што ў яго будзе пытацца настаўніца. Настаўніца пытае:

— Як будзе па-беларуску месяц „март"?

Васіль Іванавіч паглядзеў у вакно, а Пецька яму слоік з сокам паказвае.

— Сакавік, — кажа Васіль Іванавіч.

— Правільна. А як па-беларуску будзе месяц „сентябрь"?

Васіль Іванавіч у вакно пагядзеў, а Пецька яму букецік верасу паказвае.

— Верасень.

— Правільна. А як па-беларуску „ноябрь"?

Вырашыў Пецька патрэсці дрэва, каб лісце пасыпалася, дый сам сарваўся. Паглядзеў Васіль Іванавіч і кажа:

— Падзень.

— Не, думайце.

Вызірнуў Васіль Іванавіч у вакно і кажа:

— Не, няправільна я сказаў: трупень будзе.

## Смех у санаторыі

— Татачка, хто гэта эканаміст?

— Гэта, сыночку, такі дзядзька, якому здаецца, што знаецца на грошах лепш, чым людзі, якія іх маюць.

*

—Скажы, колькі я магу даць яму за самагонку? — пытае суддзя пачатковец свайго больш вопытнага калегу.

— 20 тысяч злотых за літр і ні граша больш!

*

— Ці верыш у сны?

— Вядома, што веру.

— А ці мог бы ты прывесці прыклад таго, што яны збываюцца?

— У мінулым тыдні снілася мне, што я знаходжуся на канцэрце ў філармоніі. Буджуся і, аказваецца, канцэрт перад хвілінаю закончыўся.

*

— У якое месца ўдарыў вас гэты самаход? — пытае суддзя пацярпеўшую жанчыну.

— Ой, высокі суд, саромеюся назваць гэтую частку цела. Скажу толькі, што каб я была машынай, дык у гэтым месцы была б рэгістрацыйная табліца.

*

— Гэты твой нарачоны вельмі дрэнна выхаваны, — гаворыць маці дачцы.

— Калі я размаўляла з ім, ён пазяхаў хіба з дзесяць разоў.

— Мамачка, ён не пазяхаў! Ён прабаваў адазвацца.

*

На мясакамбінаце:

— Брыгадзір, колькі вады даліць у тую каўбасу, што робім на экспарт?

— Паўвядра.

— А ў гэтую, што робім на ўнутраны рынак?

— Адкруці кран і ідзем снедаць.

*

— Сустракаюцца дзве сяброўкі:

— Гэта ты, Зося?! Зусім я цябе не пазнала.

— Чаму?

— Так прыгожа сёння выглядаеш.

*

— Чаму вы на сцяне за прылаўкам павесілі люстэрка? — пытаецца пакупніца ўласніка крамы.

— Каб кліенткі глядзелі ў люстэрка, а не на вагу!

**Даслаў**
**Андрэй Гаўрылюк**

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫІ

Каб не ўкусіла гадзюка, калі будзеце збіраць ягады, забірайце ў лес мангусту.

Не купайцеся ў Індыйскім акіяне — акулы могуць адкусіць вам палец.

Калі хочаце ехаць у Амерыку — едзьце!

Хамут каню накладайце цераз галаву.

Калі вам папсуецца веласіпед — палажыце яго на воз і завязіце ў майстэрню.

Калі папсуецца тэлевізар — уключыце радыёпрыёмнік.

Калі папсуецца радыёпрыёмнік — схадзіце за навінамі да кума.

Каб не траслася рука з чаркай, вазьміце другую чарку.

Не купайцеся ў Ледавітым акіяне, каб не прастудзіцца.

Каб не пацелі ногі, ешце марозіва.

Калі конь не хоча цягнуць — распутайце яго, калі надалей не хоча — прыпражыце другога.

Не стаўляйце туалет на дарозе — праходзячыя каровы могуць перакуліць яго разам з вамі.

Каб не прастудзіць горла, мыйце гальштук у цёплай вадзе.

Каб гусі не брудзілі панадворка — не трымайце іх; трымайце ката.

Калі прысядаеце ў туалеце, не забудзьце апусціць нагавіцы і падштанікі.

Каб карова не біла вас знянацку хвастом падчас даення, прывяжыце да хваста званочак.

Каб конь не палохаўся, малюйце плуг спакойнай фарбай.

Калі едзеце за граніцу, не забудзьце ўзяць пашпарт.

Падчас яды не забудзьце адкрываць рот.

**Адам Маньяк**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! У нашым жыцці здарылася ўсё па класічнай схеме. Людзі кажуць: адно дзіця — адно вока. Я і сама гэта разумела, але быў у нас адзін-адзіны сын, якога нарадзіла я, яшчэ будучы студэнткай. Марылі мы пра другое дзіця — вельмі хацелі мець дзяўчынку, але ўсё нешта стаяла нам на перашкодзе.

Спачатку мы канчалі сваю інжынерскую школу, пасля доўга не было кватэры. Муж выехаў за граніцу, каб зарабіць крыху граша. Я засталася з бацькамі, якія дапамагалі мне выхоўваць сына. Вырашылі, што як толькі мой муж вернецца дахаты, дык купім сабе ўласную кватэру і тады падумаем пра другое дзіця, бо ў бацькоў і так няма дзе павярнуцца.

Побыт мужа за граніцай прадаўжаўся. Знаёмыя пачалі жартаваць: відаць, сядзіць там нездарма... Але я верыла, што мой муж не паехаў загранiцу на гулянкі, а сапраўды каб зарабіць.

Вярнуўся праз пяць гадоў. Ніхто ніколі мне не сказаў, што ў яго была там якаясьці баба. Зрэшты, калі б у яго нехта там быў, дык, думаю, не прывёз бы столькі грошай, колькі прывёз. Купілі мы сабе не толькі кватэру, а цэлы дом, сапраўдную вілу, гаспадар якой нечакана памёр, не дачакаўшы заканчэння будовы.

Мы перабраліся ў новы дом. Я была шчаслівая. Муж вярнуўся, хлопец расце, дом вялікі. Можна падумаць пра другое дзіця. Пакояў у доме было шмат, і адзін з іх я абсталявала для нашага будучага малыша. Грошы былі, дык я вырашыла адразу купіць і калыску, і каляску, і нават цацкі, каб пасля, калі не будзе часу, за гэтым не бегаць.

На жаль, усе спробы зацяжарыць, канчаліся трагічна. Выкідыш за выкідышам! Не ведаю, што здарылася з маім арганізмам — першая цяжарнасць была такая лёгкая і добрая, што я яе нават не адчувала.

Я пачала хадзіць па лекарах. Лячылі мяне ўжо пяць гадоў, калі захварэў мой сын. Каб быў адразу нам сказаў, што нехта стукнуў яго нагою ў балючае мужчынскае месца, дык, пэўна, можна было б яму дапамагчы. А ён, відаць, саромеўся. Было ж яму ўжо пятнаццаць гадоў. Калі сказаў, было запозна, каб выратаваць яго жыццё. Зрабіўся рак. Ужо гнаілася нага.

Калі мы пахавалі сына, у мяне прапала менструацыя. Надзеі на дзіця ўжо не было. Мы засталіся з мужам адны ў апусцелай віле. Не было ахвоты жыць. Я ізноў пачала лячыцца, але цяпер — у псіхіятра. Муж спачатку прабаваў неяк пацяшаць мяне, але ў яго гэта не выходзіла. Яму і самаму патрэбна было пацяшэнне.

Ну, і што ты думаеш, Сэрцайка? Хутка пацешыўся. Пачаў дадоўна ўцякаць з дому, пакідаў мяне адну. Піў, гуляў. Пачаў вадзіць іншых баб. Там знаходзіў радасць і заліваў гарэлкай свой смутак.

Мінула так два гады. Я думала, што ўсё гэта часовае, што ён таксама, як і я, шукае раўнавагу пасля ўсяго таго, што сталася. Але раптам прывёў у хату нейкую дзяўчыну. Сказаў, што мяне ён не выганяе, але яна застанецца з ім. Ну, і што мне было рабіць? Глядзець на ўсё гэта і маўчаць? Я і так ведала, што маё жыццё праіграна, дык сабрала асабістыя рэчы і вярнулася да бацькоў. Людзі кажуць, каб я судзілася за дом: усё, набытае супольна, дзеліцца ж напалавіну. Але навошта мне гэты дом?! Толькі напамінае мне маю трагедыю.

**Варвара**

Варвара! Твая сітуацыя трагічная, але не безнадзейная. І ты з часам можаш пачаць новае жыццё. Акуніся ў працу, пачні сустракацца з людзьмі. Ужо нічога не вернеш, а трэба жыць. Мусіш быць моцнай.

У людзей вельмі часта так здараецца, што адкладаюць справу дзіцяці на неакрэсленую будучыню, калі будзе дом, дактарат ці грошы. А будучыня, яна бывае каварная.

Дом сёння табе непатрэбны, але можа быць патрэбны заўтра.

**СЭРЦАЙКА**